

Ператоча - 2013 → 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




„Олень” на поўдні → 8


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 32 (2988) Год LVIII | Беласток, 11 жніўня 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Традыцыйна гімнам, складзеным спецыяльна для гэтага мерапрыемства, і феерверкамі пачалася 3 жніўня сёлетняя „Прымацкая бяседа” ў Міхалове. На сцэне амфітэатра да позняй ночы выступіў шэраг беларускіх калектываў Беласточчыны і гасцей зорак з Беларусі. Ужо традыцыйна перад сцэнай пеклі парасят, на сцэне ўздоўж доўгай лавы селі члены ансамбля „Прымакі”, задумшчыкі і вядучыя мерапрыемства, спадчыннікі — як гэта назваў старшыня Беларускага таварыства Ян Сычэўскі — гарадоцкай „Сяброўскай бяседы”.



# Бяседа ў Міхалове

Пачынаючы свята, бурмістр Міхалова Марк Назарка спаслаўся на гмінныя планы:

— Калі мы тут сустрэнемся ў наступным годзе, тэрыторыя вакол амфітэатра будзе выглядаць зусім інакш. Будуць таксама працягвацца працы па рэканструкцыі парку. Мы ажыццяўляем праекты, для якіх нам удалося дастаць ад ЕС больш за 5 мільёнаў злотых.

Старшыня БГКТ Ян Сычэўскі (Таварыства разам з Гмінным цэнтрам культуры ў Міхалове і тутэйшай Гміннай управай з'яўляецца галоўным арганізатарам мерапрыемства) звярнуўся да аўдыторыі:

— Гэтая падзея спрыяе развіццю беларускай культуры, але і дыялогу культур і канфесій. Развівае пачуццё нацыянальнай самасвядомасці і фармуе вобраз беларусаў у Польшчы. Такім чынам „Прымацкая бяседа” з'яўляецца спадчыннiцай „Сяброўскай бяседы”, з'яўляецца працягам ідэі сяброўства людзей розных нацый і канфесій ды ліквідацыі непаразуменняў паміж імі.

Са сцэны чыталіся лісты ад міністра культуры РБ Барыса Святлова і амбасадара РБ у Польшчы Віктара Гайсёнка. Дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Польшчы Эдуард Швайко (КЦБ дапамагае ў арганізацыі „Бяседы”) у размове з „Нівай” не скрываў:

— Я тут ужо ў трэці раз, і так з першага выдання фестывалю. Спачатку я быў прадстаўніком нашага міністэрства культуры. Заўсёды мы надавалі вялікае значэнне гэтаму праекту, асабліва калі ён нараджаўся з ідэі Юркі Астапчука (лідар гурту „Прымакі” — М. Х.). Я думаю, што гэта адна з самых яркіх падзей у жыцці беларусаў у Польшчы.

На міхалоўскім свяце прысутнічаў былы амбасадар Беларусі ў Польшчы і былы міністр культуры, у цяперашні час амбасадар Беларусі ў Францыі і пры ЮНЕСКА Павел Латушка. Калі мы гаварылі з ім, адзначыў:

— У цяперашні час я ў Парыжы, а вельмі хацеў прыехаць сюды. Тут ёсць асаблівая атмасфера, якая дае станоўчы імпульс для звычайнага, штодзённага жыцця. Гэта дазваляе мне зразумець перспектыву, для чаго я на гэтай зямлі, чаму я беларус і чаму павінен ганарыцца тым, што я — беларус. Тут на Беласточчыне ёсць аўтэнтычныя калектывы. У аснове кожнай культуры з'яўляецца нацыянальная культура, якая прыйшла ад нашых дзядоў і прадзедаў. Праз нашых бацькоў прыйшла да нашых сэрцаў. Калі гэтага не будзе развіваць дзяржава, дык перспектыву развіцця культуры ў цэлым цяжка сабе ўявіць.



На фронце без перамен. Парыж (справа амбасадар Беларусі ў Францыі Павел Латушка) і Варшава (дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Польшчы Эдуард Швайко): — Беласточчына для „бацькі” важна справа



„Беседчицы” ў нацыянальнай вопратцы невядомых нам братніх народаў

Адказваючы нам на пытанне аб сваёй працы ў якасці прадстаўніка Беларусі пры ЮНЕСКА, сказаў ён:

— З нашага пункту гледжання гэта вельмі важна, каб на форуме ЮНЕСКА прадстаўляць беларускую культуру як частку еўрапейскай культуры, культуры свету. Мы нічым не адрозніваемся ад іншых культур. Беларуская культура не горшая і не менш важная з пункту гледжання сусветнай культуры. Я хачу, каб на розных спісках ЮНЕСКА, у тым ліку матэрыяльнай і нематэрыяльнай спадчыны ў свеце было як найбольш помнікаў, аб'ектаў, звязаных з ёй. Дазваляе гэта таксама беларусам ганарыцца тым, што яны маюць вельмі доўгую і багатую сваю ўласную культуру.

Дадаў:

— З боку нашага ўрада прагучала прапанова, каб вызначыць два-тры аб'екты, якія будуць заяўлены ЮНЕСКА як прапановы для ўключэння ў Спіс сусветнай спадчыны. Гэта важна для Беларусі і з пункту гледжання эканомікі; знаходжанне на сусветным спісе стымулюе турызм.

Беларускі бок прапануе (з Літвой), каб увесці ў спіс Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА, сярод іншых, абаронныя замкі з часу Вялікага Княства Літоўскага з тэрыторыі сённяшняй Літвы, Беларусі, Украіны і Малдовы. Акрамя таго восенню Беларусь мае паведаміць аб двух прозвішчах, якія павінны апынуцца на сусветным спісе ўвекавечаных асоб: Язэпа Гашкевіча, які нарадзіўся на Астравеччыне, а затым быў першым консулам Расіі ў Японіі, і Міхала Агінскага, выдатнага кампазітара, якога юбілей будуць адзначаць разам беларусы, палякі і літоўцы.

Сярод калектываў, якія прыехалі ў гэтым годзе на міхалоўскае свята, быў „Неруш” з Мінска. Яго кіраўнік Валянціна Гладкая сказала нам:

— У нашым ансамблі фальклорам займаецца больш за сорак мастакоў. Яны спяваюць, танцуюць і іграюць. У Міхалова прыехала наша прадстаўніцтва, наша моладзь, якая выступае ў больш сучаснай вопратцы, якая спявае народныя песні ў больш сучасный апрацоўцы. На прыезд у Міхалова спецыяльна падрыхтавана яшчэ адна прэм'ера: „Полька-янка”. Мы зрабілі гэта па-свойму. Упершыню на такі фестываль за мяжой прыехала група нашых хлопцаў, якія спяваюць і танцуюць з намі ў апошні час. Выступаем ва ўсім свеце, нават у Японіі, Тайландзе і Афрыцы. Вельмі любім вяртацца ў Польшчу, таму што нас тут вельмі разумеюць. Мы адчуваем сябе тут як дома.

З Мінска прыехалі артысты ў рэгіянальных, маляўнічых касцюмах, якія звычайна прэзентуюць фальклор з ваколіц Віцебска, Гродна, Гомеля, Мінска і Палесся — Дзяржаўны харэаграфічны ансамбль „Харошкі”. Часта называюць яго жамчужынай нацыянальнага, беларускага фальклору і да гэтага часу яны — жывая легенда тамашняй культуры. Яго гісторыя сягае 1974 года, а стваральніцай, задумшчыцай і апякункай ад самага пачатку з'яўляецца Валянціна Гаявая. Назва групы — ад адной з беларускіх вёсак на Магілёўшчыне. Усё пачалося, калі заснавальніца групы ўбачыла і захапілася там беларускім танцам „Гусарык”, які з самага пачатку быў у рэпертуары групы. У памяць аб тадышняй падзеі ансамбль прыняў назву вёскі. Яго музычны кіраўнік Уладзімір Гінько сказаў „Ніве”:

— Мы прыбылі на фестываль у зменшаным саставе: без музыкаў і танцораў, якія зараз у адпачынку, бо штодзень мы працуем у звычайным складзе. Падрыхтавалі народныя песні і два танцы: „Весялуху”, пераплёс з дзвюх беларускіх вёскак, і „Суботу”, урывак з вялікай трохчастковай кампазіцыі. Мы тут першы раз. Спадзяемся прыбыць на Беласточчыну ў цэлым, больш за сто асоб, складзе.

У Міхалове выступіў легендарны танцор „Харошак”, 64-гадовы, невялікі ростам Фёдар Балабайка. У інтэрв'ю, перад выступленнем, ён сказаў нам:

— Танцаваць буду датуль, пакуль здароўе дазволіць мне і пакуль будуць мяне хацець у калектыве. Я пачаў танцаваць тут з самага пачатку, у 1974 годзе, гэта значыць яшчэ ў мінулым стагоддзі. Вучыўся на слесара. Як мне дазваляў час, хадзіў я пасля працы на заняткі аматарскага танца. І калі пры філармоніі стварылі „Харошкі”, я даведаўся аб гэтым, і яны прынялі мяне.

Гледачы асабліва чакалі выступу сусветнавядомага ансамбля народнай музыкі „Бяседа”, што працуе пры Беларускай дзяржтэлерадыёкампаніі, чые песні спявае ўся Беларусь. Салісткі ансамбля Святлана Суседчык і Тацяна Лазоўская прадставілі нам у Міхалове свой калектыў:

— Наша каманда складаецца з людзей з вышэйшай музычнай адукацыяй. Кожны з нашых музыкаў валодае некалькімі інструментамі, але ўсе і спяваюць, і танцуюць. У нашым рэпертуары, па-за традыцыйнымі народнымі песнямі, ёсць і залатыя хіты нацыянальнай класікі.

У гэтым годзе „Прымацкая бяседа” таксама ўключала стэнды з прыкладамі рамёства, у тым ліку з шэдэўрамі беларускай вышыўкі, якой мастацтва прадставілі Галіна Бірыцкая з Плянты і Ганна Кузьма з Міхалова, ды конкурсы на самы цікавы верш пра „Прымацкую бяседу” і ўнікальныя віншаванні (са сцэны) з нагоды свята. У адной з палатак прадаваўся кампакт-дыск запісаны беларускімі музыкамі Падляшша, які складаецца з дзесяці твораў. Паступленні ад продажу дыска будуць перададзены ў госпіс прарока Іллі ў Новай Волі:

— Гэта быў імпульс. Я сама гэта выдумала. У майго сябра ёсць студыя гуказапісу і ён пагадзіўся па выдатках вытворчасці выпусціць нам кампакт-дыск. На працягу двух дзён, крыху выпадкова, званілі мы калектывам, і ніхто не адмовіўся, даўшы кожны па песні. На працягу двух тыдняў атрымалася запісаць кампакт-дыск. Мы ўжо ведаем, што будзе другая яго частка, — прадстаўляла запіс „Ніве” каардынатарка працы госпісу Магдаліна Юрчук, штодзень жонка Адама, члена групы „Прымакі”, якой песня адкрывае альбом.

Свае песні на гэтым альбоме прэзентуюць таксама „Лідар”, „Світанак”, „Калінка” з Залук, „Метро”, „Ас” „Лайланд”, „Падляшская капэла”, „Сказка” і „Зараніца”. Кружэлка ў падтрымку нававольскаму госпісу ёсць таксама ў рэдакцыі „Нівы”.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА





# Белыя рыцары

4 жніўня споўнілася два гады з дня арышту і фактычнага зняволення лідара праваабарончага руху Беларусі Алеся Бяляцкага. Чалавек, якога ведае фактычна ўвесь цывілізаваны свет, апынуўся за кратамі паводле выраку суда, які відавочна быў палітызаваным і вынік якога быў заранёў вызначаным. Калі ўжо была пачата крымінальная справа нібыта за нявыплату падаткаў, Алеся Бяляцкага выпускалі з краіны, ускосна нават падштурхоўвалі да гэтага. Калі б кіраўнік „Вясны" зрабіў такі крок, яго зразумела б пераважная бальшыня аднадумцаў і паплечнікаў, як мы разумеем многіх цяперашніх палітычных эмігрантаў, якім рэальна пагражала турма і якія пакінулі Беларусь. Мяркую, так думаў і сам Алесь Бяляцкі, свядома робячы свой выбар і асэнсоўваючы наступствы зняволення. Але ёсць людзі на гэтым свеце, якія дакладна ведаюць сваю місію і сваё прызначэнне. Перакананы, што калі Алесь Бяляцкі пастанавіў сабе змагацца за праўду да апошняга, ён думаў не толькі пра сябе. Алесь Бяляцкі — гэта сапраўдны рыцар свабоды. Ён думаў і пра тых людзей — палітычных вязняў, якія ўжо былі за кратамі пасля Плошчы 2010 года, і пра тых людзей, якія былі на свабодзе, але маглі туды трапіць. Ён напэўна думаў і пра агульную беларускую сітуацыю, на якую, седзячы за мяжой, ён наўрад ці мог так уплываць. Ён зрабіў свой маральны выбар. Ён застаўся ў Беларусі да канца і на самым працэсе яшчэ раз выразна і сваёй паставай, і лагічнымі аргументамі сцвердзіў сваю невінаватасць і адпаведна абсурднасць абвінавачання. Ён цудоўна ўсведамляе свой высокі статус у сусветным праваабарончым руху. Ахвяруючы сваёй асабістай свабодай, Алесь Бяляцкі прыцягваў і прыцягвае далей увагу міжнародных структур і арганізацый да грамадска-палітычнай сітуацыі ў Беларусі. А праваабарончы цэнтр „Вясна", які стварыў з сябрамі і паплечнікамі Алесь Бяляцкі, дапамог ужо за сваю семнаццацігадовую гісторыю тысячам без віны пацярпелым грамадзянам. І працягвае сваю высакародную дапаможную місію надалей, фармуе беларускую салідарнасць і грамадзянскую супольнасць, нягледзячы на сістэмны пераслед у розных формах яго сяброў.

За апошні час мне прыйшло праз пошту некалькі лістоў — ад Алеся Бяляцкага, ад Зміцера Дашкевіча, ад Паўла Севярынца. Тры палітвязні, тры змагары, тры вернікі — прычым прадстаўнікі розных хрысціянскіх канфесій. Не перастаю здзіўляцца моцы і нязломнасці духу гэтых людзей, якія знаходзячыся ў зняволенні, працягваюць натхняць іншых, усіх нас, якія жывуць і працуюць у значна больш камфортных умовах. У сваіх лістах яны часта спасылаюцца на евангельскія тэксты, якія, сілкуюць іх дух. Увогуле, усе нашы дванаццаць палітвязняў, якія зараз у турмах — гэта сапраўдныя апосталы духу, белыя рыцары нашай свабоды. У гэтым была магчымасць пераканацца неадназова, гэта ціхія, але выразныя героі, якія ратуюць гонар нацыі, што ў сваёй пераважнай бальшыні пагрузла ў крывадушнасці і абыякавасці, у хцівасці і злоснасці, у зайздрасці і прыстасаванстве. Ратуюць гонар нацыі, што ніяк не можа ў сваёй крытычнай масе адрозніць свайго і сапраўднага ад чужынскага і фальшывага.

А дзяржаўная ўлада, якой бы магутнай яна не здавалася, заўсёды прайграе тым, каго яна несправядліва пераследуе, чым бы не скончылася зняволенне гэтых мужных людзей. Таму ёсць шматлікія прыклады з гісторыі — даўняй і найноўшай. Ва ўлады ёсць толькі адно выйсце хоць неяк ураваць сваё аблічча — гэта неадкладна выпусціць палітычна зняволеных і поўнасцю іх рэабілітаваць. Наўрад ці ўлада на гэтае здольная, хоць на гэтым свеце здараецца ўсялякае.

Беларусь — вялікая краіна не толькі таму, што мае надзвычай багатую гістарычную і культурную спадчыну. Беларусь — вялікая краіна і таму, што мае сёння такіх самаахвярных сыноў, мае такіх змагароў за справядлівасць, мае такіх белых рыцараў...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Вайна зубра і мядзведзя



Беларусь, хоць і малая, звітна прашмыгвае паміж ног рускага гіганта і не дае растаптацца. Вялікая гэта заслуга прэзідэнта Лукашэнкі. Асабіста ён выпінае бадзёра грудзіну ў абарону постсавецкай бацькаўшчыны і сацыяльнай абыякавасці, негаспадарлівых гаспадарак і непрадпрымальных прадпрыемстваў, адпаведна называных калгасамі і заводамі, недаразвітай сферы паслуг, перарослай бюракратыі і апарату бяспекі, і, нарэшце, дыктату дзяржавы і разгубленых грамадзян, няўпэўненых у тым, ці жадаюць вярнуцца да часоў прыгоннай бесклапотнасці, і, нарэшце, вырваўца на самасвядомую, хацця адказную, грамадзянскую пазіцыю. Расія з'яўляецца велізарнай па тэрыторыі, моцнай нафтай і газам. Таксама шматмільённай армяй. Ну і дзяржымордам Пуціным. Беларусь затое перарастае яе найбуйнейшымі ў свеце радовішчамі калію і вялікім, небаязлівым духам сваім прэзідэнтам.

Ціхая і заўзятая вайна, якая адбываецца паміж ім і Пуціным, прэзідэнтам Расіі, распасціраецца на некалькіх франтах. На палітычным, культурным, паляўнічым, спартыўным і нават эратычным. Але, як на вайне, часам верх бярэ расійскі мядзведзь, часам беларускі зубр. Пуцін, як вядома, слых мае ненайлепшы. У музыкальнасці б'е яго Лукашэнка, які грае на гармоніку. Толькі што «рука ператварылася ў мядзведжую лапу», сціпла тлумачыцца беларускі прэзідэнт. На жаль, Пуцін ужо даўно з нічога не тлумачыцца. Пэўна таму, што слон наступіў яму на вуха. Ён робіць тое, што лічыць правільным. А правільнае заўсёды тое, што ён робіць. Калі хтосьці не падабаецца, то яго зачыняе ў лагеры і мае душэўны спакой. У апошні час зачыніў блогера Навальнага. Раней дзве дзяўчыны з лішне эксцэнтрычнай групы „Pussy Riot". І яшчэ раней алігарха з грамадскай гатоўнасцю — Хадаркоўскага. Аб шэрагу іншых медыйна ананімных буркунах пуцінаўскай улады не буду згадваць. Існуюць такіх сотні, калі не тысячы. Расія вялікая краіна, таму, вядома, лёгка ў ёй заблудзіцца. Лукашэнка, зрэшты, і ў гэтай галіне саступае свайму рускаму саперніку. Лагераў у Беларусі ў цяперашні час больш, чым універсітэтаў, а папраўчых устаноў і розных арыштаў — чым дзіцячых садоў. Беларусь, аднак, занадта малая, каб згубіліся ў ёй антылукашэнкаўскія героі: Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Мікалай Статкевіч, Мікалай Аўтуховіч, Алесь Бяляцкі, Зміцер Дашкевіч, Павел Севярынец. Вядома, дзе яны ў цяперашні час прабываюць. У лагерах!

Такім чынам, прэзідэнты Беларусі і Расіі на ўсіх франтах сваёй вайны ідуць рука аб руку. І нават, так сказаць, хвост аб хвост. Хаця на эратычным полі выйграў з лёгкай перавагай Аляксандр Лукашэнка. У апошні час з'явіўся ў Ерэване з таямнічай бландзінкай пры баку. Пры баку і быццам бы... на баку. Падобна некалькі гадоў таму паказаўся з іншай бландзінкай у Ватыкане, дзе сустрэўся з тагачасным папам Бенедыктам. Пуцін пры ім гэта заўзяты манах. Хоць абвясціў аб сваім разводзе з законнай жонкай, але акрамя чутак, што не шкадуе намаганняў, каб здабыць прыхільнасць 30-гадовай, значыць ужо досыць пастарэўшай прыма-балерыны, нічога пэўнага невядома пра яго юрлівасць. Старэе нам Пуцін. Сведчыць аб гэтым яго твар апухлы ад батулізму (кілбаснага яду), які, як кажуць, мае амаладжальныя ўласцівасці. Затое Лукашэнка, вядома, не ўжывае такіх мефістофельскіх трукаў. Прынамсі так кажа мая сяброўка, вельмі разбіраючаяся ў гэтых пытаннях асоба. Паводле яе слоў, батулізм моцна падпсаваў бы гожы твар беларускага прэзідэнта. Ну, хай будзе па-ейнаму. Акрамя таго, магчымасцей прадэманстраваць ваяўнічы запал шмат. На ўсіх франтах. Калі Пуцін выграбаў з марскога мулу старажытную амфару, дык зараз Лукашэнка дагробся да аднолькава старажытнай безгаспадарнасці ў п'янаватым саўгасе. Калі Пуцін прыгожа ўзараў неба рэактыўным знішчальнікам, дык Лукашэнка зусім нябрыдка ўзараў поле саўгасным трактарам. Ці яшчэ адзін фронт: спорт. Абое любяць хакей. Колькі разоў Пуцін замахнецца клюшкай па шайбе, тым хутчэй забівае гол. У большасці самагубны гол у свае вароты, але вядома, гаворка не пра тое, дзе і каму ўрэзаць, а каб урэзаць. Падобную філасофію прапаведуе Лукашэнка. Абодва яны майстры забівання галоў у свае вароты. Таму што для іх з'яўляецца важным не вынік матча, але забітыя сабою галы. Такім чынам яны заўжды ў пераможцах. А хто сярод праграўшых? Заўсёды прайграўшыя.

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# Пралукашэнкаўскае лобі

Мякка кажучы, я са здзіўленнем прыняў інфармацыю, што 12 ліпеня ў Сейме па ініцыятыве падляшскага дэпутата ад СЛД Яўгена Чыквіна ўзнікла група па супрацоўніцтве з Рэспублікай Беларусь. Здавалася б, падобная (у назве: па справах Беларусі) існуе з 2005 года і кіруе ёй іншы падляшскі дэпутат Роберт Тышкевіч з ГП (таксама віцэ-старшыня парламенцкай камісіі па замежных справах). Група дэпутата Чыквіна запісала ў рэгламенце: «Да задач групы належаць у прыватнасці намаганні дзеля супрацоўніцтва і пабудовы добрасуседскіх адносін паміж Польшчай і РБ, асабліва трансгранічнага супрацоўніцтва, наладжанне кантактаў і абмен вопытам у сферы эканомікі, культуры, адукацыі, аховы культурнай спадчыны пражываючых у Польшчы і Рэспубліцы Беларусь нацыянальных меншасцей, у тым ліку ўстаноўленага ў гэтых сферах права». Цікава, што ў рэгламенце групы не выкарыстоўваецца афіцыйна назва — Польская Рэч Паспалітая. А мэты, запісаныя ў рэгламенце працы групы дэпутата Тышкевіча, сканцэнтраваны на ініцыяванні дзеянняў дзеля шырокай дапамогі ў дэмакратызацыі Беларусі і супрацоўніцтве з беларускімі дэмакратычнымі арганізацыямі, але ў той жа час, і на «ініцыяванні і падтрымцы польска-беларускіх адносін, у прыватнасці, у наступных галінах: культуры, эканомікі, трансгранічнага супрацоўніцтва і моладзевага абмену».

Дэпутат Чыквін не трымае ў сакрэце, што ён клапоціцца аб супрацоўніцтве з так званым афіцыйным Мінскам, рэжымам байкатаваным міжнароднай супольнасцю за парушэнне правоў чалавека і незахоўванне дэмакратычных стандартаў. Ён таксама мае апаскі (павінен па меншай меры задавацца пытаннем), ці гэтая ініцыятыва «сустрэнецца са станоўчым адказам беларускага боку» (за Польскім радыё для замежжа). Намеснік старшыні гэтай групы ад ПСЛ Пётр Згажэльскі ў выказванні для Радыё Рацыя зайшоў так далёка, на мой погляд, аж да кур'ёзных заяў: «Мы, канешне, заўважаем усе гэтыя недэмакратычныя дзеянні, якія маюць месца ў Беларусі. Тым не менш мы не з'яўляемся прадстаўніцтвам Польшчы (!!! — М. Х.), гэтым займаецца Міністэрства замежных спраў, канстытуцыйныя ўстановы, якія гавораць ад імя польскай дзяржавы (!!! — М. Х.).

Дэпутат Тышкевіч пасля фарміравання групы дэпутата Чыквіна неадкладна пракаментаваў на фейсбуку: «Гэта паражальнае. Новая парламенцкая група па справах супрацоўніцтва з Рэспублікай Беларусь мае намер супрацоўнічаць з рэжымнымі беларускімі ўладамі. На першым пасяджэнні галоўным госцем быў пасол Беларусі Гайсёнак, які будзе дапамагаць дэпутатам у атрыманні інфармацыі з Беларусі, і ўся група будзе будаваць добрасуседскія адносіны з Рэспублікай. Усё таму, што дапамога беларускай апазіцыі далёка не дастатковая... Калегі забыліся, што ў Беларусі маем дыктатуру, а з дыктатарам не размаўляюць ані Польшча, ані Еўрасаюз. Яны, разумею, будуць размаўляць? Я стрымаюся ад больш моцных слоў каментарыя».

Мне цяжка не пагадзіцца з адчуваннямі дэпутата Тышкевіча, у тым ліку выказанымі ў інтэрв'ю для СМІ: «Мяркуючы па ўсім, дэпутат Чыквін і яго супрацоўнікі ў гэтым новым мерапрыемстве не хочуць ідэнтыфікаваць сябе з гэтай плынню ангажаванасці дзеля Беларусі, якая заключаецца ў садзейнічанні дэмакратыі, абароне людзей пераследаваных рэжымам (...). Гэты новы праект разлічаны на стварэнне пралукашэнкаўскага лобі ў польскім Сейме. Гэта выразна ўключана ў назве. Гэта адмаўленне папярэдніх дзеянняў польскага Сейма і польскіх улад. Мы хочам эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва з грамадскасцю Беларусі, польскія самаўрады падтрымліваюць кантакты з беларускімі мясцовымі органамі ўлады, але не падтрымліваем улад гэтай краіны. Нельга адначасова кагосьці ганіць і гладзіць па галоўцы!»

Паколькі прэзідыум Сейма не можа напрамую забараніць дзейнасць якой-небудзь групы ў парламенце, дэпутат Тышкевіч вырашыў пераканаць кожнага з яе членаў адмовіцца ад працы ў гэтым органе. Такім чынам ужо пакінуў шэрагі групы адзіны прадстаўнік Грамадзянскай платформы. Засталося адзінаццаць: шасцёх з СЛД, чатырох з ПСЛ і двух з Руху Палікота. Але, як было напісана кімсьці на фейсбуку, добра, што ведаем калабарантаў з рэжымам Аляксандра Лукашэнкі ў польскім Сейме па прозвішчах.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**



# Ператоча-2013

**У час XI Белавежскіх мастацкіх інтэграцый «Ператоча-2013», якія 26 і 27 ліпеня наладзіў у Белавежы Фонд «Царкоўная музыка» з Гайнаўкі, у супрацоўніцтве з Белавежскім асяродкам культуры, Белавежскім аддзяленнем Польскага краязнаўча-турыстычнага таварыства і Белавежскім нацыянальным паркам, выступілі калектывы з Польшчы, Беларусі, Літвы і Расіі. Хаця мерапрыемства спасылаецца на традыцыі і культуру розных нацыянальнасцей, прадстаўнікі якіх жылі на тэрыторыі Белавежскай пушчы і ў яе наваколлі, то галоўны арганізатар «Ператоча», старшыня Фонду «Царкоўная музыка» Мікола Бушко ўпэўнены хто асноўная нацыя на пушчанскай і прыпушчанскай прасторы.**

— Няма ніякіх сумненняў, што ў Белавежскай пушчы і яе наваколлі ў асноўным жылі беларусы. У нашай частцы пушчы бачым зараз паланізацыйныя працэсы, — заявіў Мікола Бушко.

Арганізатары «Ператоча» бачаць патрэбу прэзентавання культуры іншых нацыянальнасцей, якія пражывалі ў Белавежскай пушчы і яе наваколлі — польскай, яўрэйскай, літоўскай, нямецкай, расійскай, украінскай і ромскай. Мерапрыемства вядзецца на дзвюх мовах — польскай і беларускай і на іх друкуюцца плакаты.

— Белавежа, гэта цудоўнае месца. Тут усё такое незвычайнае. «Ператоча» — цікавае мерапрыемства, у час якога можна пазнаёміцца з культурай і традыцыямі розных народаў. Можна нават падгледзець нешта ад іншых і прымяніць у сябе. Нашых песень мы не выконваем у тыпова народным стылі, але так, як мы іх адчуваем. Ці то рэгэ нам навеяла, ці рок. Так і выконваем. Калі мы бачым нешта іншае, ды цікавае, гэта для нас сапраўднае натхненне. Мы шырока адкрытымі вачыма глядзім і слухаем, — заявіла Анна Бабік, настаўніца беларускага садка ў Беластоку і заадно адзін з двух музычных кіраўнікоў калектыву «Світанак» (разам з Аленай Кудраўцавай з Гродна).

Данута Тымашэвіч са «Світанка» дадала, што падабаецца ёй атмасфера белавежскага мерапрыемства, якое дае магчымасць выступіць перад міжнароднай і шматнацыянальнай публікай. Калектыў «Світанак» спевам і танцамі захапіў публіку, якая моцна апладзіравала пасля выступаў жанчын з Беластока. Падчас XI выпуску «Ператоча» запрэзентаваліся таксама іншыя цікавыя выканаўцы песень, музыкі і танцаў. Кожны дзень мерапрыемства распачыналася традыцыйнай прагулкай спевакоў, музыкантаў і танцораў на брычках па Белавежы і канцэртам трубачоў-гейналістаў. Удала запрэзентаваўся перад сваёй публікай беларускі калектыў «Ручаёк» з Белавежы.

— Мы выступаем як прадстаўнікі беларускай меншасці ў Польшчы і таму





Арыгінальны абрад яўрэйскага вяселля запрэзентаваў польскі калектыў песні і танца «BezWianka» з Астровi-Мазавецкай



спяваем па-беларуску. У нашым рэпертуары маем таксама творы на іншых мовах, якія выконваем пры розных нагодах. Ёсць ужо любіцелі нашай музыкі і нашых песень, якія прыходзяць на нашы выступы, перадусім тут, у Белавежы. Асаблівай каштоўнасцю нашага калектыву з'яўляецца розны ўзрост спевакоў. Выступаюць у нас прадстаўнікі двух пакаленняў, нават мамы і дочкі. Ладзім майстар-класы, якія вялі ў нас Анна Фіёнік са Студзіводскага музея і Марта Грэдаль з Гайнаўскага дома культуры. Цэлы час намагаемся павышаць узровень нашых выступаў, — сказаў кіраўнік калектыву «Ручаёк» Марк Зубрыцкі.

З цікавым рэпертуарам запрэзентаваўся калектыў песні і танца «Васілёчкі» з Бельска-Падляшскага.

— Мы выступалі ў розных месцах у Польшчы і за мяжою, але важна нам выступіць тут, у час «Ператоча», перад разнароднай публікай і запрэзентаваць нашую беларускую песню, нашую беларускую культуру. Апрача спеву будзем таксама танцаваць. Успамагаюць нас інструментальная капэла з Гродна, наш музычны кіраўнік Мікола Фадзін і яго жонка Людміла, наш харэограф. У гэтым саставе ў час выхадных мы будзем яшчэ выступаць у Гарадку, Сямятычах і Нурцы, — сказаў перад выступам Уладзімір Весялоўскі, спявак і танцор, які выступае ў «Васілёчках» ад самага пачатку. — Слава Богу, што больш ае ў нас лік спевакоў. Сёння будзе выступаць пад 30 асоб. Хаця некаторыя гавораць, што лепш выступаць у меншым складзе, але на вышэйшым узроўні, то я лічу, што ў колькасці — сіла, а ўзровень спеву можна павышаць і ў вялікай грамадзе.

«Васілёчкі» з Бельска-Падляшскага

— Мы ў гэтым годзе далей не выязджаем, бо эканомім сродкі на святкаванне юбілею 50-годдзя дзейнасці хору, які будзем адзначаць у будучым годзе. Зараз дзве асобы прывучваюцца да выступаў і спадзяемся, што нас яшчэ пабольшае, — заявіла Ніна Бялецкая, кіраўнік «Васілёчкаў».

У ліпеньскія дні Белавежу наведала многа турыстаў. Частка з іх прыбыла на Белавежскія мастацкія інтэграцыі. Вялікую частку публікі састаўлялі жыхары Гайнаўскага павета. Прыехалі таксама бяльшчане, каб паглядзець выступы сваіх калектываў, і жыхары Беластока.

— Гэта незвычайная з'ява, што было холадна і холадна, а на наша «Ператоча» хмары разышліся і так пацяплела, — гаварыў узрадаваны Мікола Бушко.

Побач сцэны, пераробленай на ператоча ў клуні, сядзелі і стаялі людзі. Іншыя шпацыравалі каля прадаўцоў харчавання і сувеніраў або сядзелі і пілі гарачыя і халодныя напіткі ды слухалі музыку і здалёк спазіралі на выступаючых.

Нашы падляшскія песні запрэзентаваў фальклорны маладзёжны гурт «Шалуха» з Бельска-Падляшскага, які ў асноўным складаюць дзяўчаты з Ягуштова, што вучыліся спеву ў Студзіводскім музеі. Цікавым для публікі быў выступ калектыву яўрэйскай музыкі «Shalom» з Рэспублікі Беларусь, а канкрэтна з Ліды. Арыгінальны абрад яўрэйскага вяселля запрэзентаваў польскі калектыў песні і танца «BezWianka» з Астровi-Мазавецкай.

— Яўрэйскае вяселле можа і было вядомае нашым бацькам, бо жыды жылі ж сярод нашых продкаў, але я першы раз бачу гэты цікавы абрад, — сказаў мужчына з бельскіх «Васілёчкаў».

Калектыў «BezWianka» запрэзентаваў таксама «Лавіцкую сюіту». Балканскую этнічную музыку запрэзентаваў калектыў «Саракіна» з Беластока, у якім выступаюць прафесійныя музыкі. Украінскія песні і танцы прэзентаваў украінскі калектыў народнага танца «Чарамош» з Венгажэва. Перад сабранымі з цікавымі прапановамі выступілі таксама калектыў «Vilnele» Літоўскіх узброеных сіл з Вільні, калектыў песні і танца «Казачата» з Рэспублікі Адыгея, што знаходзіцца ў складзе Расійскай Федэрацыі і цыганскі калектыў «Hitano» з Ольштына. Займальна заспявалі дзеткі з Казацкага дзіцячага хору Растоўскай кансерваторыі з Расійскай Федэрацыі.

— Наш хор ні ўкраінскі, ні расійскі. Мы прэзентуем перадусім казацкія, данскія песні. Сёння мы заспяваем 5 данскіх і 5 расійскіх твораў, — сказаў дырыжор хору прафесар Сяргей Тараканаў.



Калектыў «Світанак»

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Небяспечныя гульні

У летнім сезоне вуліца ў Кузаве ператвараецца ў гульнявую пляцоўку для мотакаскадзёраў, якія ганяюцца на магутных „харлеях”, едучы на Рэпчыцкі вадаём. Яны тады не прытрымліваюцца правілаў дарожнага руху, які абмяжоўвае хуткасць да 50 км у гадзіну на заселенай тэрыторыі. Перасягаюць яны мяжу хуткасці да 70-80 км/гадз. Бяда таму, хто стане ім на дарозе. Няма тут сторажаў правапарадку, якія прыцягнулі б назойлівых смельчакоў да адказнасці. На пералётных трасах у заселеных пунктах знаходзяцца фотарадары, напрыклад, на шашы з Бельска-Падляшскага ў Беласток такая ўстаноўка знаходзіцца ў Праневічах і яна застаўляе шафёраў зняць нагу з педаля. Праўда, неадночы прыкмячаю праязджаючы вуліцай службовыя паліцэйскія аўтамабілі, але гэта не палохае парушальнікаў закону. Ёсць яшчэ іншая праблема. Бездказныя асобені забаўляюцца разбіваннем бутэлек. Прагульваюцца яны ў кампаніі і спажываюць піва, затым парожнія бутэлькі разбіваюць аб асфальтнае палатно. Асколкі разбітага ў дробны мак шкла распырскваюцца ва ўсе бакі і здаюцца быць непрыкметнымі карыстальніку аўтатранспартнага сродка. Выпрабаваў я гэта нядаўна на ўласнай скуры, едучы роварам з чыгуначнай станцыі дахаты ў Кузаву. Прыехаўшы дамоў, паставіў ровар у кладоўку ў належным парадку. Калі наступнай раніцы, а было гэта ў суботу 20 ліпеня (другі дзень чаромхаўскага фестывалю фолькавых сустрэч „З вясковага панадворка”), выявілася, што мой надзейны сродак транспарту страціў паветра. Тады я пачуў ад прыяцеля дачкі, што прычынай гэтаму могуць быць асколкі шкла, якія прыкмеціў ён за мосцікам каля сядзібы Міхала Канарэўскага. Праўда, падазрэнне аказалася трапным. У двух месцах знаходзіліся непрыкметныя воку дзірачкі велічыні зерня маку. У першым была адна дзірка, у другім — некалькі. Адрамантаваўшы ровар, паехаў я на станцыю, каб праверыць пачутае аб разбітых бутэльках. Непадалёк ад скрыжавання вуліцы Вонскатаровай з Длугай у сонечных праменях зіхацелі асколкі шкла. Шмат іх было навокал. А што магло б здарыцца шафёру аўтамабіля, які ехаў нават з дазволенай хуткасцю 40-50 км/гадз., лепш не гаварыць. Дарожная аварыя, безумоўна. Затым мая заўвага і заклік — больш развагі, шаноўныя маладыя джэнтльмены. Гэтая бездказная забава ганяючыхся на „стальных конях” па чаромхаўскіх вуліцах і для вас можа аказацца пасткай. **(ус)**

## Фэст над возерам

У суботу, 9 жніўня гэтага года (на Панцеляймона), адбудзецца народны фэст у Семяноўцы на пляцоўцы пры Асяродку экалагічнай адукацыі. Ладзяць яго войт Нараўчанскай гміны, Гмінны асяродак культуры і солтыс Семяноўскага саляцтва. Пачнецца фэст у 17 гадзін.

Гмінныя ўлады запрасілі пяць мастацкіх вакальна-музычных калектываў: „Маланку” з Бельска-Падляшскага, „Гай” з Беластока, „Сакрэт” з Міхалова, „Цаглінкі” са Старога Ляўкова і „Мілавіцу” са Свіслачы (Рэспубліка Беларусь).

Вечарам іграць і спяваць да танцаў будзе „Санэль” з Беластока. **(яц)**

## СПАЧУВАННІ

**Ірэне Парфянюк** з Гайнаўкі
з прычыны напаткаўшага Яе гора
**— смерці Мамы —**
словы глыбокага спачування
выказваюць сябры з Фонду
„Царкоўная музыка”.



# Гэта мяне бухнулі ў рэчку!

— Тамара Саланевіч была такая простая і звычайная, але гэта быў напраўду чалавек! — кажа Валя Дарашкевіч з Меляшкоў.

— Ці часта яе ўспамінаеце?

— Няма дня, каб пра яе не думала...

* * *

Валя Дарашкевіч выйшла на вуліцу, каб нас сустракаць. І адразу сцэна, як з камедыі.

— Ой, як тыя праваслаўныя дзяўчаткі ўжо прыгажуні, — кінула на прывітанне, — нідзе такіх няма.

— А я — каталічка, — заявіла без крыўды самая прыгожая ў кампаніі.

— Ой, выбачайце, — жахнулася гаспадыня, — я ўжо старая...

У апошнім сцвярджэнні мы таксама адчулі нешта з ігры. Валя Дарашкевіч, нягледзячы на сталы ўзрост, ззяла духовай моладасцю. Яна сама для нас з'явілася часткай беларускай гісторыі. Гэтая вясковая гаспадыня амаль дваццаць гадоў вяла беларускі тэатр у сваёй вёсцы. Ну і, вядома, выступала на сцэне як акцёрка. Наш візіт датычыў яе фільмавай прыгоды. Разам з аднавяскоўцамі здымалася ў двух фільмах Тамары Саланевіч: у „Нараўчанскай баладзе” (Kresowa ballada) і „Ахвяраванні” (**Żertwa**). Дзея апошняга дакумента, які датычыў народна-рэлігійнага абраду, адбывалася ў іх вёсцы...

Два тыдні раней, калі мы шукалі людзей, што выступалі ў фільмах, галоўнай завадатаркі, значыць Валі Дарашкевіч, якраз не было ў хаце. Давай распытваць пра яе ў суседа, які сядзеў на лавачцы, два дамы далей. Той дастаў з кішэні мабілку і пазваніў сваёй жонцы.

— А ваша жонка дзе? — спыталі мы. — Пэўна, дзесьці далёка?

— У хаце сядзіць, — гаспадар паказаў дом за сваёй спіною.

Ён праз мабільнік загадаў жонцы, каб тая пазваніла Валі Дарашкевіч і паклікала яе сюды, бо тут вельмі важная справа абмяркоўваецца. Беларусы яе шукаюць!

У канцы канцоў замест Валі Дарашкевіч да нас выйшла жонка дзядзькі. Яна прынесла нам дрэнную навіну: іх суседкі не было ў хаце. Але ад душы нам хацела дапамагчы. Сама села ў нашу машыну і паехала адшукаць апошніх удзельнікаў фільмаў...

У апошняй хаце мы перажылі шок з-за сціпласці мясцовых акцёраў. Мы даведаліся, што той дзядзька, значыць Чэмель, які праз сваю мабілку і жонку дапамог нам наладзіць сувязі з многімі ўдзельнікамі фільмаў, сам іграў важную ролю ў „Ахвяраванні”.

І нічога нам не сказаў, не пахваліўся!

— Ён тады быў солтысам, то зайшоў у хату і сказаў што трэба, — патлумачылі без хітрасці яго фільмавы эпізод у Меляшках.

Спадар Чэмель іграў менавіта ролю „солтыса” ў „Ахвяраванні”.

* * *

— А так напраўду то мы нічога ў фільмах не ігралі і не выдумвалі, — кажа Валя Дарашкевіч, — усё рабілі як у нас у вёсцы рабілася: сенавалі, жалі, спявалі. Не было ў нас сцэнарыя ці нейкіх касцюмаў. А вопратка, адкуль? Гэта тая самая, што і ў тэатры выступалі. Я нават мела такі стары партух ад цёшчы, то ён вельмі спадабаўся Тамары. Яна была на год ад мяне старэйшай, і ўжо як мы разам папрацавалі, яна кажа: давай будзем гаварыць да сябе па імені. І так асталося. Яна была для мяне як сястра. Не то каб хадзіла і крычала! Не — гэтага не было. Яна сама як чаго не ведала, то прыйдзе і спытае...

Пытаем пра сцэну з „Нараўчанскай балады”, дзе жанчыны высцілаюць палатно для бялення і адначасова добра гуляюць, строяць фокусы, свавольнічаюць. А пасля адну з іх кідаюць дзеля забавы ў рэчку.

— А гэта мяне бухнулі ў раку, — смяецца спадарыня Валя.

— Так было ў сцэнарыі?



— А дзе там, хтось на хаду прыдумаў! Я нічога не ведала.

— Як вы ўспрынялі такі жарт?

— Пасмяяліся і ўсё. Не было ніякага гневу, а што вы!

Ад нашай субяседніцы мы даведаліся, што сцэну з бяленнем палатна запісалі ў Бабяй Гары. Там была рэчанька...

Іншыя фрагменты „Балады”, звязаныя са жнівамі, адбываліся на прыватным полі Тамары Саланевіч, пад Забалотчынай.

— Памятаю, што там многа асоту было. А нам басаног трэба было жаць. То пастэнкалі, пакуль прывлучыліся.

Нашая субяседніца па чарзе называе сваіх вясковых акцёрак, словам не згадваючы пра сябе. У іх калектыве былі дзве Ніны Лавіцкія, Галена Дарашкевіч, Анастасія Карповіч, Марыя Казёл, Марыя Пятэльская.

— А да фільмаў ездзіў з намі яшчэ Барыс Карповіч. Бо нармальна, у сваім тэатры, мы мужыкоў не хацелі, — адзначае спадарыня Валя.

* * *

Ад пачатку рашылі, што абыдуцца без мужыкоў у сваім тэатры. Чаму так? Каб, бяды на голаў не наклікаць.

— То ж на сцэне прытуліцца, пацалавацца трэба. А як у вёсцы з чужым мужыком пацалавацца? Людзі адразу на языкі возьмуць. Пачнуць гаварыць пра здраду, што гэта захаханая пара. Ніхто не паверыць, што так у кніжцы напісана. А так, калі бабы пацалуюцца, смеху яшчэ будзе, — паясняе нам загадачны сюжэт нашая субяседніца.

Яна сама часта іграла мужчынскія ролі. Не таму, што хацела.

— Калі той герой быў *фэко*, сяброўкі адмаўляліся, не хацелі іграць. То ў мяне не было выбару. Інакш нічога не атрымалася б.

У Меляшках слова *фэко* абазначае нешта паскуднае, брыдкае.

Гэтае слоўца я першы раз пачула на хутары ў Меляшках, калі восенню 1995 года, па запрашэнні мясцовых людзей, там адбыліся II Сустрэчы „Зоркі”. Мясцовыя прыглядаліся нашай працы і ўголас хваляваліся ці хоць не атрымаецца *фэко*. У канцы наш чырвоны крыж з выявамі Святых Беларускай зямлі вельмі спадабаўся. Стаіць там па сённяшні дзень.

Калёнія Меляшкі, або як кажуць у народзе „Сэты”, таксама звязана з фільмамі Тамары Саланевіч. Аказваецца, там капалі бульбу для „Нараўчанскай балады”.

У кадрах звязаных з капаннем бульбы даволі пераканаўча ў ролі знахаркі і чараўніцы выступіла таксама жыхарка Меляшкоў Вера Лявіцкая.

У сувязі з тым, што меляшкоўскія акцёры ігралі самі сябе, мы спыталі пра метафізічныя здольнасці мясцовых кабет, на што атрымалі просты і адначасова метафізічны адказ:

— Замаўляць кожны можа, але ж не ад кожнага дапамагае.

* * *

Не менш цікавіла нас сувязь Тамары Саланевіч з вёскай Меляшкі. Чаму якраз выбрала іх, сярод іншых самадзейнікаў і аматараў беларускай вясковай сцэны.

— Гэта дзякуючы Янку Карповічу, — адзначае Валя Дарашкевіч. — Ён прывёз яе да нас у вёску і так усё пачалося...

Каб паехаць на здымачную пляцоўку ў Нараўку, жанчыны былі вымушаны прачынацца раней, чым звычайна. Да часу пакуль сядуць у аўтобус, які завязе іх у суседнюю гміну, трэба было парабіць усё ў гаспадарцы, наварыць для сям'і, прыбраць у хаце.

— А мужык не быў супраць? — пытаем.

— Пускаў вас на план?

— А што, ён ласку рабіў!

У апошнім сцвярджэнні яшчэ больш адчуваем тэмперамент і прыгожасць меляшкоўскіх жанчын. Частку свайго свету падарылі яны фільмам Тамары Саланевіч. Там іх песні, жывая мова, прыгожасць і гумар. Зараз, калі іх вёска абязлюдзела, калі многія акцёры ўжо апынуліся ў лепшым свеце, фільмавая прыгода набірае яшчэ большага значэння. Зараз для Валі Дарашкевіч, нягледзячы на перапоўненае па берагі жыццё, сустрэча з рэжысёркай была найважнейшай у жыцці.

— Няма такога дня, каб я не думала пра Тамару, — кажа.

Паміж думкамі вяжа на прутках шкарпэткі. За апошнюю зіму шэсцьдзесят пар зрабіла. Хто да яе зойдзе, падарак атрымае. Увесь час хочацца ёй штось добрага для людзей зрабіць!

Разам ідзем да каляровага крыжа, які ў жніўні 1995 года размалявалі карэспандэнты „Зоркі” пад кірункам Лёніка Тарасэвіча.

— Але мне не рабіце здымкаў, — пратэстуе нашая гераіня, — бо я *фэко* на здымках выходжу.

Пасля доўгай-доўгай просьбы нашая цудоўная акцёрка ўсё ж пагаджаецца.

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

# З'езд беларусаў свету — праз 20 гадоў

(працяг з 31 н-ра)




Фота Міры ЛУКШЫ

Удзельнікі з'езду таксама прынялі рэзалюцыю, датычную захавання гісторыка-культурнай спадчыны, і рэзалюцыю пра транслітарацыю найменняў беларускіх геаграфічных аб'ектаў (каб далей выкарыстоўвалася беларуская лацінка). Дадаткова прынялі прапанову «Да 500-х угодкаў бітвы пад Воршай». Юбілей будзе спраўляцца 8 верасня ў наступным годзе, і дэлегаты звярнуліся ў Міністэрства культуры Беларусі, каб належным чынам ушанаваць гэтую падзею на дзяржаўным узроўні. Хаця адзін з дэлегатаў (з Украіны) заклікаў, каб ушаноўваннем некаторых падзей не пакрыўдзіць іншых нацый.

Па выніковай рэзалюцыі з'езду заўваг не было. Усе прысутныя пагадзіліся, што «нацыянальная ідэнтычнасць ёсць апірышчам развіцця беларускага народу», а нашы нацыянальныя сімвалы — герб Пагоня і бела-чырвона-белы сцяг. З'езд выказаў спадзяванне, што герб і сцяг будуць уключаныя ў пералік нацыянальна-культурных каштоўнасцей Беларусі.

**Наталля Гардзіенка**, даследчыца гісторыі беларусаў замежжа, кандыдат гістарычных навук звярнула ўвагу на тое, што «па-ранейшаму не распрацавана нарматыўна-прававая база дачыненняў з дыяспарай, у сучаснай Беларусі сістэматычна не займаюцца вывучэннем ні таго, што ўяўляе сабою сам феномен беларускага замежжа, яго гісторыя і культура, ні таго, што адбываецца сёння ў дыяспары. Не праводзіцца аналіз рэальных міграцыйных працэсаў, невядома ні больш-менш дакладная колькасць беларускіх суполак, ні сапраўдныя аб'ёмы эміграцыі. Праблемай застаецца стаўленне беларускай дзяржавы да дыяспары». У якасці прыкладу яна прывяла параўнальныя дадзеныя міграцыі з Беларусі ў шэраг краін свету. Так, па афіцыйнай беларускай інфармацыі за 2000-2010 гады ў Канаду выехалі 1 046 жыхароў Беларусі, а па канадскай статыстыцы за гэты перыяд на сталае жыццё ў краіну прыехалі 5 701 беларус. Па беларускіх звестках у 2011 годзе ў Канаду эміграваді 59 чалавек, а па канадскай статыстыцы ў краіну прыбылі 355 беларусаў. На думку даследчыцы, праблема рэальнай эміграцыі застаецца незафіксаванай і незаўважнай у Мінску. Паводле яе слоў, сённяшні падзел беларускай эміграцыі мае найперш і найбольш палітычны характар і залежыць ад стаўлення да беларускіх улад. «Гэты падзел у шмат чым інспіруе сам афіцыйны Мінск праз палітычную эміграцыю і лаяльныя да сябе суполкі, каб паказаць падтрымку сваёй палітыцы з боку замежжа. Разам з тым, і эміграцыйныя дзеячы, пераймаючы гэтую своеасаблівую тактыку, часам пачынаюць дзяліць эмігрантаў і наогул беларусаў на «чэсных» і «нячэсных», называць агентамі КДБ усіх, хто не прытрымліваецца іх поглядаў, або нейк узаемадзейнічае з уладнымі структурамі. Часта канфлікты ў беларускіх асяродках маюць іншую аснову, звязаную з дачыненнямі лідараў між сабою па пытаннях маёмасці, або высвятленню пытання, хто які беларус і гэтак далей».

**Генадзь Бураўкін:** «Самае балючае для нацыі — пытанне мовы. Мне так здалося, што нават у дэлегатаў з'езду — лепшых прадстаўнікоў беларускага замежжа — няма разумення таго, што без беларускай мовы Беларусі быць не можа. У некаторых адкрыта, у некаторых прыхавана часам з'яўляецца думка пра тое, што мы — беларусы, мы — за Беларусь, але не абавязкова, каб беларусы ведалі мову, і не абавязкова, каб беларусы былі нечым духоўным глыбока гістарычным паяднаныя. Я гэта катэгарычна не прымаю і ў гэтым бачу вялікую небяспеку, якую вучоныя модна называюць небяспекай глабалізацыі. Для такіх цывілізацый, як беларуская, гэта вялікая небяспека. Бо ў нашым нацыянальным характары няма радыкалізму і рашучасці адносна нацыянальнага пытання, дзякуючы якім іншыя народы захоўваюцца як этнасы ў незалежных дзяржавах».

Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі **Івонка Сурвіла** ў сваім вітальным слове адзначыла, што «менавіта ад дэлегатаў форуму залежыць будучыня Беларусі і магчымасць Бацькаўшчыны зноў заняць тое пачэснае месца ў сям'і народаў Еўропы, якое калісьці займалі нашыя продкі. Адной з найважнейшых задач беларусаў з'яўляецца інфармаванне свету пра нашу зямлю, пра наш народ, пра нашу слаўную мінуўшчыну і нашу культуру».

Міністр культуры **Барыс Святлоў** адзначыў, што Рэспубліка Беларусь «пакуль не мае магчымасці даць беларусам замежжа такую ж багатую матэрыяльную падтрымку, якую даюць сваім суайчыннікам некаторыя больш заможныя краіны, аднак ідучы насустрач адзін аднаму, працуючы сумесна, можна вырашаць шмат пытанняў і праблем ужо сёння». У той жа час беларуская дзяржава чакае ад нацыянальных дыяспар па ўсім свеце актыўнай дапамогі. «У гэтай зале нямала беларусаў, што прадстаўляюць палітычную і дзелавую эліту. І нам заўсёды хочацца ўспрымаць іх не толькі назіральнікамі з-за мяжы, але і непасрэднымі ўдзельнікамі будаўніцтва суверэннай Беларусі, рэфарматарамі эканомікі, ініцыятарамі развіцця нацыянальнай культуры, навукі і мастацтва. Ад дыяспары чакаюць не толькі прэзентацыі нацыянальнай культуры за мяжой, але і ўмацавання аўтарытэту беларускай дзяржавы, а таксама аб'ектыўнага інфармавання сусветнай супольнасці пра працэсы культурнага будаўніцтва ў Беларусі і, безумоўна, прыцягнення інвестыцый з-за мяжы».

Даследчыца Наталля Гардзіенка ўручыла на з'ездзе першую ўзнагароду ад Беларускага інстытута навукі і мастацтва (Нью-Ёрк) гісторыку Алесю Пашкевічу.«Акт удзячнасці БІНіМу» — гэта ўзнагарода, якая будзе ўручацца штогадова за даследаванні гісторыі беларускай эміграцыі.

VI З'езд беларусаў свету дапамог стварэнню экспазіцыі пра эміграцыйны друк. У фае цэнтра падчас працы форуму адкрыліся адразу дзве выставы. Адна — падрыхтаваная мастакамі-беларусамі Балтыі на чале з Вячкам Целешам, другая, прысвечаная спадчыне Беларусі на Захадзе — гісторыкамі Наталляй Гардзіенкай і Лявонам Юрэвічам. У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адкрылася выстава «Якуб Колас у эміграцыйным друку», якая змяшчае ўнікальныя асобнікі замежных выданняў і невядомыя цікавыя факты пра класіка беларускай літаратуры.

«Шкада, што тыя праблемы, якія былі на першым з'ездзе, так і засталіся», — сказала **Ніна Савінава** з Эстоніі пра ўдзел дзяржавы ў працы з дыяспарай. Прайшло 20 гадоў, а нічога кардынальна не памянялася. Нас успрымаць дзяржаве трэба не як тых, хто паехаў за лепшым жыццём, а як тых, хто апынуўся за мяжой і захоўвае беларускасць — гэта пра недавер з боку дыпламатычных служб і цяжкасці ў атрыманні візаў».

Пра візы сказала і **Алена Глагоўская** з Гданьска. «Пасольскія прадстаўніцтвы дзеляць беларусаў на сваіх і не сваіх, каму можна дапамагаць, а каму нельга. У кастрычніку мне забаранілі ўезд у Беларусь на навуковую канферэнцыю. А перад гэтай паездкай давялося дзень правесці ў беларускім консульстве ў чаканні візы».

Скептычна наконт вынікаў з'езду выказаліся перакладчык Лявон Баршчэўскі і паэт Сяргей Законнікаў. «Вынікі нашых рэзалюцый, на жаль, маюць слабы рэзананс», — сцвердзіў Баршчэўскі. — «Пакуль у дзяржаве не будзе нармальнага ладу (палітычнага, грамадскага), не будзе вырашана ніводная праблема, у тым ліку вашыя (дыяспары) лакальныя праблемы», — адзначыў Законнікаў.

І калі адны казалі пра палітвязняў (Мікалай Статкевіч праз адваката даслаў сваё вітанне), то іншыя гаварылі пра вялікую ролю ўлад Рэспублікі Беларусь. Камусьці не хапала на з'ездзе дзяржаўнага гімна і афіцыйнай сімволікі. Адзін з прадстаўнікоў беларусаў з Расіі заходзіў на розныя форумы дыскусіі і на кожным правакацыйна крыўдзіўся, што на з'ездзе «Бацькаўшчыны» не ўшаноўваецца тое, што ў краіне абавязвае двухмоўе!

**Запісала Міра ЛУКША**

## Тэлефонная кніжка з недахопамі

У пачатку чэрвеня гэтага года выдавецтва «Centrala Wydawnicza» выпусціла ў свет новую тэлефонную кніжку Падляшскага ваяводства на 2013-2014 гг. Пацікавіўся я гэтай выдавецкай фірмай. У кніжцы знайшоў толькі нумар мабільніка выдавецтва 663 825 554. Пазваніў, але ён увесь час выключаны.

Чаму пішу пра выдавецтва, пра якое нічога невядома? 7 чэрвеня г.г. купіў я гэтую кніжку ў 352 старонкі (прывёз мне яе кур'ер) і не знайшоў у ёй ні аднаго нумара стацыянарных тэлефонаў жыхароў Новага Ляўкова, у тым ліку і майго. Дык вось гэтая кніжка няпоўная, з недахопамі.

Яшчэ ляжаў снег на двары, калі аднойчы вечарам пазванілі мне і паведамілі, што актуалізуюць нумары тэлефонаў з мэтай выдання новай тэлефоннай кніжкі. Запісалі мой стацыянарны нумар і спыталі, ці не хачу падаць у кніжку нумар свайго мабільнага тэлефона. Мабільніка я не падаў. Было яшчэ пытанне, ці я ахвотны купіць новую кніжку, у якой будзе яшчэ і медычны інфарматар. Я адказаў, што куплю, бо мне патрэбная перш за ўсё навейшая тэлефонная кніжка. На працягу двух апошніх гадоў да мяне тэлефанавалі іншыя выдавецтвы. Адна назвала сябе «Дом» і неўзабаве мела прыслаць неабходную мне кніжку, ды нічога з гэтага не атрымалася. Мяне запэўнілі, што цяпер магу быць спакойны — яны кніжку ўжо рыхтуюць. І вось дачакаўся кніжкі з недахопамі (у ёй некаторыя прозвішчы і нумары тэлефонаў паўтараюцца). Новаму Ляўкову ў ёй месца не хапіла. Праваронілі?

## Таварыства „Ятрышнік"

Паўтара года таму жыхары Лешукоў і Міхнаўкі (Нараўчанская гміна) заснавалі Таварыства „Ятрышнік". Галоўная мэта яго дзейнасці — захоўванне традыцый тутэйшага рэгіёна ды актывізацыя і інтэграцыя мясцовага грамадства.

Мае яно сваю сядзібу ў святліцы ў Міхнаўцы. Налічвае 30 членаў. Узначальвае Таварыства „Ятрышнік" старшыня Альжбета Кунцэвіч. Шмат дапамагае ёй Галена-Марыёля Рэнт (намеснік старшыні).

Першым культурна-забаўляльным мерапрыемствам быў навагодні баль. Новы год сустракалі на ім 22 пары. Зараз потым арганізавалі экскурсію ў Галерэю імя Тамары Саланевіч у Нараўцы. (Войт гміны даў школьны аўтобус.) З цікавасцю агледзелі яны выстаўку карцін, а на іх пейзажы Нараўчанскай зямлі. Наведалі агратурыстычную гаспадарку „Бора-Здруй" Людмілы і Барыса Казлоўскіх у Новым Ляўкове.

Члены „Ятрышніка" ездзілі ў Новае Ляўкова і Старое Ляўкова паглядзець як некаторыя гаспадыні пякуць хлеб у хатняй печы, б'юць масла ў спецыяльна для гэтага зробленых драўляных маслабойках ды робяць сыры. Ткачыха са Старога Ляўкова паказала традыцыйнае ткацтва на кроснах і як пралі кудзелю калаўротам. Хто дагэтуль не ведаў, дык вопытныя гаспадыні вучылі вэкаваць мяса або фрукты ці агародніну. Зараз усім вядома як раней пяклі вясельны каравай або „буславу лапу".

Варта дадаць, што сёлета закончылі рамонт святліцы ў Міхнаўцы. Уставілі новыя вокны, зрабілі новую шалёўку, адрамантавалі кухню ды пабудавалі хлебную печ. Ёсць тут таксама камінак. Зараз у сярэдзіне святліцы прыгожа і прытульна.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Сорам і гонар на ўсю Польшчу!




— Тамара Саланевіч была для мяне ўзорам, Еўропай, — кажа археолаг Кацярына Бяляўская з Нараўкі, — яна не пагаджалася на прыжыты погляд на тэму вясковай жанчыны. Яна сама ўмела быць элегантнай варшавянкай і адначасова вясковай кабетай. Многія думаюць, што калі яна выехала ў Варшаву, то пакінула родны кут. Яна яго не пакінула. Яна дбала пра маці, прыязджала дапамагаць ёй пры сяўбе, сенаванні, жніве, уборцы бульбы. Сувязь з родным кутком яна паказвала ў сваіх фільмах.

Тамара Саланевіч падыходзіла да сваіх фільмаў вельмі сур'ёзна. Яна была патрабавальнай прафесіяналкай. Часта, каб даведацца штосьці важнае, яна доўга размаўляла з людзьмі. Гаварыла дзень-два... Пасля думала. А фільмы здымала пасля нейкага часу, калі ў галаве нараджалася поўная ідэя. За такі стыль працы яе часам крытыкавалі героі. Яны хацелі чым хутчэй знята і мець святы спакой.

Тамару Саланевіч крытыкавалі прапаведнікі сучаснасці. Яны ўпікалі рэжысёрку за тое, што яна паказвае „бедную" Беласточчыну — а гэта ж сорам на ўсю Польшчу! За тое, што яна паказвала паваленыя платы, людзей на фурманках, або такіх, што працуюць рукамі ў полі. Навошта яна гэта робіць? — крытыкавалі многія.

Справа ў тым, што Тамара Саланевіч не прыхарошвала сваіх фільмаў. Яна паказвала праўду, нават калі яна была непрыемнай і калола ў вочы.

Цяпер, пасля 13 гадоў ад яе смерці, людзі інакш глядзяць на яе фільмы. Яны належным чынам ацэньваюць у яе творчай спадчыне якраз шчырую праўду і менавіта за гэта яе любяць і цэняць.

***„Людзі Тамары Саланевіч"**: Паўліна Ваўранюк (Гімназія імя епіскапа генерала Мірана ў Нарве) і Вікторыя Барэчка (Гімназія імя Тамары Саланевіч у Нараўцы).* Дапамагалі: Веранiка Кардзюкевіч і Клаўдзія Галінская (НШ імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку), Аляксандра Зінкевіч (КШ з ДНБМ імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім), Патрыцыя Карлаў (Гімназія імя Роду Хадкевічаў у Гарадку), Якуб Ваўранюк і Крыстыян Паскробка (Ш-ПК у Нарве). Апрацоўка і праўкі: Валянціна Бабулевіч, Іаанна Марко, Уршуля Шубзда. Рэдакцыя тэксту: Ганна Кандрацюк.

## Гісторыя вёскі Старая Лука





Вераніка Кардзюкевіч, чацвёрты клас НШ імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.

Даўным-даўно на Беласточчыне, недалёка Нараўкі, была прыгожая вёска Старая Лука. У вёсцы ад многіх вякоў жылі дзеці, бацькі, бабулі і дзядулі. У іх былі свае гаспадаркі, яны гадавалі свіней, кароў, коней. Аднаго разу прыйшлі іншыя людзі і загадалі вяскоўцам пакінуць іх хаты. Перасялілі лучан у блёкі, а вёску хацелі затапіць. Але месца не затапілі, сёння там растуць яшчэ старыя яблыні і слівы. Некалькі метраў ад вуліцы знаходзіцца вялікае вадасховішча — Семнявоўскае возера. Вады ў ім не менш, чым пралітых слёз пераселеных жыхароў.

**„Людзі Тамары Саланевіч"** —

## Заўсёды ў памяці людзей



**Палявой дарогай дабіраемся ў месца, дзе калісь была Старая Лука. У гэтай вёсцы Тамара Саланевіч здымала эпізоды да „Нараўчанскай балады". Калі мы ішлі дарогай, па правым баку віднела вялікае возера. Гэта Семяноўскае вадасховішча. Далей мы пабачылі крыж і камень з надпісам:** *Вёска Лука заснавана ў 1632 годзе, выселена ў 1986 г.*

Што гэта значыць? Мы даведаліся, што людзі былі вымушаны пакінуць свае хаты і гаспадаркі і перасяліцца ў кватэры ў блёках у Бандарах, Беластоку, Гайнаўцы, Міхалове. Боль развітання з родным кутком і драму простых людзей паказала Тамара Саланевіч у сваім рэпартажы „Ці чуеш як плача зямля".

Дзесьці пасярэдзіне дарогі мы пабачылі вясковую хатку, а на ёй надпіс: *Obiekt monitorowany.* Хату паставілі дачнікі, шмат гадоў пасля высялення. Яна была закрыта на замок і неяк сумна выглядала сярод здзічэлых садоў. Гэты будынак усвядоміў нам, што вёску непатрэбна перасялілі, а традыцыйныя хаты і клуні — разабралі.

***„Галерэя Тамары"** — аўтары: Наталля Васько (Гімназія ў Нараўцы), Эва Аўярчук (Гімназія ў КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім), Міхась Бабік (ПШ № 4 у Беластоку), Дамініка Благушэўская і Зуанна Кардзюкевіч (НШ імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку), Юліта Грыка (Гімназія ў Міхалове), Адам Сцепанюк (КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім). Апрацоўка і праўкі: Валянціна Бабулевіч, Іаанна Марко, Уршуля Шубзда. Рэдакцыя тэксту: Ганна Кандрацюк.*

## Польска-беларуская крыжаванка № 32

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 28:

Лозунг: Канікулы. Узнагароду, каляровыя алоўкі, выйграла **Магда Хвашчэўская** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!



# Олень (не толькі) по бору ходіт

Пасольска-прапаведніцкі накірунак абрала апошняя вандроўка студзіводскага мерапрыемства «Олень по бору ходіт». На тры дні загаловачны «олень» пакінуў родны падляшска-палескі бор, каб праслаўляць праваслаўе і беларускасць на далёкай-недалёкай Любліншчыне.



Дзякуючы фінансавай падтрымцы Культурнага цэнтра Беларусі пры Пасольстве РБ у Польшчы, змог ён забраць з сабой вялікую каманду памочнікаў-аднадумцаў. Месцы ў рэйсавым аўтобусе занялі апранутыя па-народнаму калектывы «Даранасіца» з Хмелева, «Жураўка» і «Жаўручкі» са Спорава, студзіводская «Жэмэрва» і крынская «Заранiца».

Бель народных хустак, сарочак і фартушкоў, падкрэсленая каляровай вышыўкай, гарманіравала з такімі ж сценамі Яблачынскага манастыра — першага перапынку ў падарожжы «оленьскіх» самадзейнікаў. Архаічная вопратка загаварыла сабой пра нявіннасць і анёльскую пакорлівасць беларусаў, пра іх роўнасць і непрыкметнасць у Божай Вялікасці. Адспяваўшы кароткі малебен у манастырскай царкве, анёльскія атрады направіліся ў далейшую дарогу. Усім здавалася яна надта доўгай, амаль бесканечнай. У аўтобусе як мантра паўтаралася пытанне: «А колькі кіламетраў яшчэ?» Таксама безупынна лілося яно і праз мабільны тэлефон ад настаяцеля Замойскага прыхода з філіялам у Шчабрэшыне айца Віталія Харкевіча. Ён і яго прыхаджане ўжо загадзя занёў аб'ядналіся ў чаканні гасцей з Беласточчыны і Беларусі. Радасці ад сустрэчы не было канца. Пачалася яна супольнай малітвай у маленькай прыгожай царкоўцы ў Замасці. Сабраныя з зацікаўленнем і хваляваннем выслухалі аповед бацюшкі пра гісторыю і сучаснасць тутэйшага праваслаўя. Гаварыў ён пра царкоўны спеў у Мікалаеўскай і рускай ваеннай цэрквах, якія дзейнічалі ў старым горадзе. Царква Нерукатворнага Збавіцеля знаходзілася ў Палацы Замойскіх, а Аляксандра Неўскага — у прагімназіі. Па вуліцы Сянкевіча стаяла Увазнесенская царква. Ногі студзіводскіх паломнікаў спыніліся на месцы, дзе калісь знаходзіліся чатырохгектарныя могілкі і невялікая драўляная каплічка. У 1939 годзе яна падзяліла лёс большасці праваслаўных храмаў Холмшчыны. Да нашага часу захавалася ўсяго семдзесят араў могільнікавай плошчы. На шчасце зберагласся іх галоўная царкоўная частка. Астанкі з ліквідаваных магіл былі перанесены ў другія часткі горада. На месцы засталіся толькі пахаванні вакол царквы. Паводле айца Віталія, менавіта яны выратавалі замойскае праваслаўе. Нашчадкі і апекуны магіл спачыўшых сталі трывалай апорай праваслаўнай супольнасці нават у часы фармальнай, шматгадовай адсутнасці прыхода. Там і вырас новы, доўгачаканы храм. Яго сцены ў 80-х гадах ХХ стагоддзя пачаў узводзіць айцец Ян Лукашук, тады настаяцель прыхода у Тамашаве-Люблінскім. Потым справу пабудовы узяў на сябе айцец Віталь — першы пастаянны свяшчэннік у пасляваенны перыяд. Гэты верны сын Міхалоўскай зямлі займаецца нешматлікай мясцовай абшчынай ужо дваццаць чатыры гады. «Усяляк бывала, — распавядае ён, — хто памёр, хто ў касцёл пайшоў». Сілу прыхода ў асноўным падмацоўваюць з'ехаўшыя тут за працай ці на вучобу жыхары Беласточчыны і ўкраінцы. Спадар Мікалай з падгайнаўскага Вэрстока большасць свайго жыцця перапрацаваў на мясцовай чыгунцы. Многа сіл і часу прысвяціў ён прыхадской дзейнасці. За свой абавязак палічыў і апеку над прышэльцамі з бацькаўшчыны. Студзіводская кампанія мела гонар пазнаёміцца таксама з вялікім сябрам замойскай царквы і айца Віталія — рэктарам тамтэйшай Вышэйшай прафесійнай школы доктарам Казімежам Хшаноўскім. Менавіта ён з'яўляецца аўтарам падараванай гасцям публікацыі пра замойскага навамучаніка протаіерея Рамана. За заслугі ў падтрымцы праваслаўя спадар Хшаноўскі ўзнагароджаны ордэнам Святой Роўнай Апосталам Марыі Магдаліны.



З караваем у Шчабрэшыне

Чарговым пунктам праграмы быў канцэрт з удзелам усіх калектываў з-пад знаку «оленя» і незабыўная вячэра, падрыхтаваная бацюшкам і яго прыхаджанамі. Ужо прыцемкам усе разам адправіліся на магілы чырвонаармейцаў. Там усклалі яны падрыхтаваныя бацюшкам вянкі, запалілі знічы і адспявалі паніхіду. Гэтае месца асабліва блізкае сэрцу айца Віталія. Яно пазначана цярпеннем шаснаццаці тысяч ваеннапалонных, расстраляных немцамі ў 1942 годзе. Яшчэ да кастрычніка прошлага года сімвалам чырвонаармейскіх могілак была толькі «красная звезда». Амаль чатырохметровы праваслаўны крыж паставіў тут добры бацюшка, які безупынна моліцца за ўпакой салдацкіх душ.



«Жаўручкі» са Спорава ў царкве ў Голі

Нягледзячы на стомленасць і познюю пару, госці пакарысталіся прафесіянальна сарганізаваным бацюшкам паходам па начным горадзе. Не абышлося і без карагодаў пад старажытнай ратушай, якія выклікалі сапраўдную сенсацыю ў горадзе. З песнямі самадзейнікі абышлі амаль усе галоўныя вуліцы начнога старога горада. Іх віталі з балконаў і акон прыгожых камяніц. Музыкі з навакольных кафэ дарылі свой акампанемент, а хто мог, той далучаўся да паходу. Некаторыя паехалі за расспяванай кампаніяй ажно ў Шчабрэшын. Там якраз праходзілі пятыя «Дні культур». Героем праваслаўнага дня ад пачатку да канца былі «оленьскія» самадзейнікі. Свята пачалося літургіяй у незвычайнай шчабрэшынскай царкве. Існаванне гэтай шаснаццацівечнай будоўлі з'яўляецца самым лепшым доказам шматвяковай прысутнасці праваслаўя на Любліншчыне. Бацюшка Віталій распавёў сабраным пра вынікі праведзеных пад яго наглядам кансерватарскіх прац у царкве, звязаных з рэканструкцыяй шаснаццацівечных фрэсак. Запрапанаваў ён таксама зберагчы памяць пра супольную сустрэчу ўпісамі ў прыхадскую хроніку. Чарговае слова належала кіраўніку «оленьскай» кампаніі, старшыні Аб'яднання «Музей Малой айчыны» ў Студзіводах Дарафею Фіёніку. Шчабрэшынскае свята стала нагодай для папулярызацыі шматлікіх дасягненняў яго арганізацыі. На царкоўным дзядзінцы адкрылася фотавыстаўка пад загалоўкам «Там, по маёвый росі, олень по бору ходіт — песні, которы нэ стіхлі», якую афармілі тэматычныя песні ў выкананні бельска-палескіх спевакоў. Здымкі з выставы былі таксама даступны ў форме альбома, свежа выдадзенага аб'яднаннем.

Наведвальнікі свята мелі магчымасць пазнаёміцца, між іншым, з дажынкавым абрадам, народнымі песнямі і традыцыйнымі танцамі Брэстчыны, Бельшчыны і Крыншчыны. Шматгадзіннае выступленне прыбылых артыстаў праходзіла на вялікай сцэне ў самым цэнтры горада.

Вечарам, у мясцовай сінагозе, пры поўнай зале прайшла прэзентацыя дакументальных фільмаў пра будні і святы Музея Малой айчыны ў Студзіводах. Бацюшка Віталій, які да канца спадарожнічаў сваім землякам, падзякаваў перадусім за падтрымку традыцый продкаў і жыццёвых цэннасці, прапагандаваныя аб'яднаннем. Цёплая двухдзённая сустрэча завяршылася супольным адспяваннем «Многая лета».

Развітаўшыся з айцом Віталіем і яго матушкай, «оленьская» кампанія адправілася у Голю, што пад Уладавай. У тамтэйшай семнаццацівечнай, драўлянай царкве ў прысутнасці люблінскага і холмскага архіепіскапа Авеля праходзіла якраз прастольнае свята ў гонар Антонія Пячэрскага. З 1996 года спалучаецца яно з Голенскім кірмашом народнага рукадзелля і фальклорнымі канцэртамі. У сёлетнім выпуску кірмашу прынялі ўдзел і студзіводскія калектывы. Беларускія абрады, песні, танцы, а нават анекдоты былі зразумелымі і надта цёпла ўспрымаліся мясцовай публікай.

З пачуццём добра выкананай місіі вярталіся дахаты неспакойныя «оленьскія» душы. У іх галовах мроіліся новыя ідэі і планы далейшага супрацоўніцтва ў карысць беларускай культуры і праваслаўя па абодвух баках мяжы.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН



Айцец Віталій і госці

# Аздараўляльны спектакль



...прапануем здаровыя харчавальныя дадаткі. Цяпер жа, ведаеш, харчаванне, якое нам прадаюць у крамах, поўнае розных хімікатаў і пазбаўленае прыродных складнікаў, вітамінаў, мікраэлементаў, што і вядзе да збою ў працы арганізма. Па табе ж відаць гэтыя недастаткі і іх трэба выправіць. На сустрэчы мусіш быць!...

Спаткаў я выпадкова Фільцю, прывабную знаёмую, у гарадскім аўтобусе. Не бачыў я яе мо з пяць ці нават больш гадоў. Дык і пытанні пра розныя весткі, парадку „што чуваць".

— Я працую з новай фірмай, — пахвалілася мне. — Здаровым харчаваннем займаюся. Вось за тыдзень фірма ладзіць сустрэчу, абавязкова прыедзь! Выглядаеш не надта, мусіш паправіцца. Прапануем здаровыя харчавальныя дадаткі. Цяпер жа, ведаеш, харчаванне, якое нам прадаюць у крамах, поўнае розных хімікатаў і пазбаўленае прыродных складнікаў, вітамінаў, мікраэлементаў, што і вядзе да збою ў працы арганізма. Па табе ж відаць гэтыя недастаткі і іх трэба выправіць. На сустрэчы мусіш быць!

Паабяцаў я быць, але ж Фільця не надта, відаць, давярала мне, бо яшчэ дзесьці — дзе чорт не можа, туды бабу пашле — даведалася нумар майго тэлефона і дадаткова пазваніла дзень перад мерапрыемствам. Не было мне выхаду ад здаровага харчавання...

Ужо быў я ў дзвярах гарадскога аўтобуса, калі шафёр паведаміў цераз бартавы мегафон, што калі хто спяшаецца, той павінен пайсці пехатою — такія цяпер у нашым раскапаным Беластоку пробкі, што гарадскі транспарт у пікавыя гадзіны валаводы валаводзіць. Не было мне выхаду ад здаровай прагулкі...

У офісе, дзе мела адбыцца акрыяльная сустрэча, Фільця чакала мяне і адразу павяла ў назначаную канферэнцзалу. І ў той зале адразу паказала крэсла, на якое меў я сесці.

— У гэтым куточку займае месца інжынер Кашалюк, ты яго знаеш, — сказала мне, — будзеце сядзець побач.

Я ўзрадаваўся, бо ж добра мець побач яшчэ аднаго знаёмага, а ўжо асабліва радавала мяне перспектыва спаткання інжынера Кашалюка. Ён ведаў пра ўсе найважнейшыя падзеі ў горадзе і наваколлі. Гэта стройны мужчына, які бываў на шматлікіх мерапрыемствах, да таго ж сам, без жонкі. Яго ная жонка бачыла і выконвала сваю жыццёвую ролю паводле класічнай сямейнай мадэлі, акрэсленай кодам 3К: карапузы, кухня і канфесіянал. Таму інжынер Кашалюк усюды бываў сам, выклікаючы на сябе іскрыстыя позіркі шматлікіх расчараваных сваім аднастайным жыццём меланхалічных жанчын, якія ахвотна інфармавалі яго пра розныя сустрэчы, даклады, канцэрты і т.п. Яго можна было, напрыклад, пабачыць на ўсіх фэстах і фестывалях, ладжаных Беларускім грамадскакультурным таварыствам. І нават цяпер, улічваючы прысутнасць інжынера Кашалюка, магло здацца, што адбываецца нейкі фінальны агляд, адно толькі не было нікога з аператыўнага кіраўніцтва Таварыства...

Ды і так не заўважалася там ніякага кіраўніцтва, хаця нейкі самабытны лад адчуваўся, быццам гэтай падзеяй сакрэтна кіраваў нейкі *Big Brother* ці іншы *Master*. Большасць аўдыторыі складалася, як мне здалося, з меланхалічных жанчын узроставай катэгорыі 40+. Іх паводзіны паказвалі, што з'яўляюцца яны там заўсёднікамі, згуртаванымі ў невялічкія ячэйкі дзеля абмену навейшымі навінамі. Займала ўвагу жвавенькая жанчынка, узросту 70+, якая натхнёна раздавала сваім знаёмым нейкія шэрыя таблеткі, а тыя даверліва ўводзілі іх у свой страваабарот.

— Гэта пані Кундзя, вельмі мудрая жанчына, — паінфармавала мяне Фільця. — Яна ўжо адной нагой была на другім баку, але акрыяла і цяпер вельмі актыўна прапагандуе здаровы лад жыцця.

Добра мець побач сябе такога праваднік, якім мне была Фільця. Дзякуючы ёй без ніякай трывогі, хаця з казытлівым хваляваннем можна было чакаць далейшага ходу падзей паводле таемнага самабытнага ладу. Фільця канфідэнцыяльна падказала мне, што ў ходзе сустрэчы нельга размаўляць. Але зараз і нейкі мужчына, што дагэтуль ціха сядзеў наперадзе, афіцыйна загадаў выключыць усе мабільнікі. І яшчэ праз хвілін пару перад адмысловым экранам з'явілася дакладчыца.

— Гэта наша лідарка, — шапнула мне Фільця. — Яна палову свайго жыцця працавала медсястрой у замежжы, на Блізкім Усходзе.

Дакладчыца, гадоў 70+, даклад свой чытала з экрана, на які тэкст выводзіў з камп'ютара нейкі ціхі мужчына. Жанчына або моцна хвалявалася, або на яе ўжо так задзейнічалі здаровыя харчавальныя дадаткі, што яна ўмеласцю чытання памаладзела да дашкольнага ўзросту. Але абачлівая тэкст яе лекцыі быў паказваны на экране і ў камернай зале можна было яго чытаць кожнаму цікаваму з кожнага месца; даклад магла чытаць нават і зусім непісьменная асоба.

Дакладчыца паведаміла, што справа пачалася ў Амерыцы. Амерыка ў нашым тутэйшым космасе бачыцца нейкім раем, нейкай святой зямлёй, дзе магчымыя ўсялякія цуды. Таму і апавяданне пра цудоўныя акрыяльныя харчавальныя дадаткі не магло Амерыкі абмінуць. Згадка пра Амерыку дае павагу патрэбным вырабам, дае ім свайго роду сертыфікат найвышэйшай якасці...

Вось там, у Амерыцы, нейкі дзядзька пакутаваў ад боляў страўніка. Аднойчы неяк выпадкова з'еў ён лыжку перцу і ягоны боль як рукой адняло. Затым той добры дзядзька пачаў рэфлексіўна думаць пра той гаючы перац і прыйшло яму ў галаву не есці яго горкага з лыжкі, толькі завівацьу адмысловыя бялковыя больш смакавітыя абалонкі. Ён нават прыдумаў спецыяльную машыну, якая выконвала гэтую завіўку. А пасля падумаў ён і пра тое, што не толькі перац можна скарыстоўваць для лячэння страўніка, але і іншую расліннасць для лячэння ўсялякіх іншых балючасцей, ужо не толькі для сваёй эгаістычнай прыемнасці, але з альтруістычнай мэтай лекавання ўсяго чалавецтва, не зважаючы на ўсялякія асаблівасці яго розных індывідаў. Ён заснаваў фірму, якая, як гэта ў Амерыцы бывае, ахапіла сваім дабрадзействам цэлы свет, у тым ліку завітала і ў Польшчу. Зараз вырабамі фірмы карыстаецца мільярд жыхароў у цэлым свеце... Фірма карыстаецца традыцыйнымі гаючымі раслінннымі кампанентамі і метадамі, выпрацаванымі шаманамі Тыбета ды індзейцамі Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі. Прымяненне экзатычнай народнай медыцыны гэта чарговы сертыфікат вельмі паважаны ў нашым тутэйшым, не толькі жаночым, народзе...

Тэкст, падаваны ў залу заслужанай медыцынскай работніцай, паведамляў, што фірма праводзіць усебаковую праверку якасці пастаўляемай ёй сыравіны і каля дзесяці няякасных адсоткаў вяртае пастаўнікам. Значыць фірма, якая бярэ толькі якасную сыравіну, выпускае не менш якасную вытворчасць — фірме можна давяраць. У гэты момант інжынер Кашалюк схіліўся да Фільці з адабральнай мімікай: яна працягнула яму кардончык з верагодным вырабам фірмы, атрымліваючы ўзамен каляровую банкаўскую паперку...

Пасля пажылой медсястры даклад зачытала лекарка-педыятр з Беларусі ўзростам ±30. Сказала яна, што зараз у Расіі і Беларусі толькі 10% дзяцей нараджаюцца цалкам здаровымі, апошнія ж у меншай або большай ступені абцяжараны дэфектамі. Ды і ў іншых краінах не лепш. А пра здароўе дзяцей трэба дбаць пачынаючы ўжо з дазачатачнага часу, прымяняючы, вядома, здаровыя харчавальныя дадаткі. Пасля яе выступіў чарговы лекар з Беларусі, гадоў ±40, які авалодаў некалькімі медыцынскімі спецыяльнасцямі. Ён гаварыў пра змаганне добрых і дрэнных мікраэлементаў у нашым арганізме. Што чалавек зараз нашпігаваны тым, што культурныя расліны ўспрымаюць з глебы, у якой таксама адбываецца змаганне мікраэлементаў. Што азот, фосфар і калій, якія з'яўляюцца асноваю фертылізатараў, вытураюць з глебы ўсе тыя карысныя элементы, якія вельмі патрэбныя для захавання здароўя. У той момант падумалася мне, што зараз чалавек ужо не з'яўляецца створаным з праху *homo sapiens*, толькі змутаваным *NPK*. Дакладчык вельмі сціпленька яшчэ заявіў, што прапанаваныя фірмай харчдадаткі не з'яўляюцца нейкай цудоўнай гаючай панацэяй, адно толькі мацуюць імуннасць арганізму. А дзве трэці арганізмаў з паслабленай імуннасцю пасляхова атакуе рак...

Інжынер Кашалюк зноў схіліўся да Фільці і чарговы кардончык, з мацуючым імуннасць змесцівам, павандраваў у ягоную сумачку. Трэба ж забяспечыць свой арганізм ад лютага ворага нашага здароўя. Гэта ж рэкамендуюць не абы-якія асобы, але сур'ёзныя спецыялісты. Яны з Беларусі, а гэта само сабой з'яўляецца сертыфікатам іх якасці. Бо ж там Лукашэнка не дазволіць каб лекаваннем асабліва прыхільных яму беластачан займаўся абы-хто. Сам Лукашэнка ў нашым тутэйшым космасе з'яўляецца сам па сабе таксама брэндам высокай якасці. Калі б нейкі тамашні лекар спрабаваў лячыць абы-як, ён, Лукашэнка, паказаў бы яму дзе тыя ўсе ракі зімуюць...

І ніхто ў нашай тутэйшай тутэйшасці нават не пасумняваецца ў кваліфікацыях гастраліруючых тут медыкаў з Беларусі: ці ў іх ёсць нейкія сертыфікаты, ці іх і зусім няма, а ёсць толькі кругленькія словы. І ці ёсць нейкія сертыфікаты для прапанаваных вырабаў, і з чаго тыя рэчывы. Бо ж аўдыторыі нельга азывацца, толькі слухаць адзіна слушную лекцыю. Дарэчы, сабраны ў зале народ дзесяцігоддзямі прывык паслухмяна слухаць адзіна слушныя павучэнні...

Пасля медыцынскіх работнікаў голас узяў чарговы эмісар з Беларусі, у гэты раз бізнесмен гадоў ±50; назваў ён сябе асістэнт-дырэктарам. Агульна гаварыў ён пра магчымасць кар'еры ў фірме, пра заробкі. Калі, для прыкладу, хто купіць камплект харчдадаткаў, той заашчадзіць 65 злотаў; колькі той камплект каштуе — прамоўца прамаўчаў... Можна працаваць для фірмы, распаўсюджваючы яе вырабы, а падатку ад гэтай дзейнасці не трэба распаўсюджвальніку плаціць; падатак за яго заплаціць нейкая фірма ў Англіі. Але найважнейшае не распаўсюджванне вырабаў фірмы, але распаўсюджванне інфармацыі пра цудоўныя якасці харчдадаткаў. Перадавікі гэтай дзейнасці могуць разлічваць на павышэнні ў фірме. У Польшчы гэтая дзейнасць яшчэ слабая, напрыклад у параўнанні з Беларуссю, дзе маецца ўжо дырэктар, а ў Польшчы, дзе ў чатыры разы больш народу, нават такога дырэктара яшчэ няма. Аднак пакуль да дырэктара, перадавікі ў распаўсюджванні „добрай навіны" атрымаюць адмысловыя прэміі, а найважнейшая з іх — экскурсія ў Лас-Вегас. За меншыя заслугі менш важная экскурсія ў блізкае замежжа — вось адна асоба з Беластока паедзе на экскурсію ў Маскву...

Завяршаючы сваё выступленне бізнесмен з Беларусі запрапанаваў усім прысутным супольную імунную гімнастыку. З сорамам прызнаюся, што не хапіла мне ўжо больш вытрымкі і я дэзерціраваў з гэтага поля змагання за маю імуннасць. Фільця, так як калісь Ева Адама, спакусіла мяне на гэты спектакль пазнання дабра і зла, за што каюся, каюся, каюся... Хаця, гледзячы з іншага боку, дзесьці-дзесьці дазачатачнае цела, нарыхтаванае або і не харчдадаткамі, чакае рэінкарнацыі ў яго маёй душы — не буду маладушным...

**івар**


Фота Каміля КРЫСЮКА

Жыхары Ліпска над брацкай магілай расстраляных землякоў

# 70 гадавіна трагедыі ліпшчан

Жыхары Ліпска, што над Бобрай, наведалі фарты непадалёк вёскі Наўмовічы на Беларусі. Тут спачывае 50 іх землякоў, якія былі расстраляны 13 ліпеня 1943 года фашыстамі. У 70 гадавіну гэтага варварскага акту сем'і замардаваных, жыхары Ліпска і навакольных мясцовасцей маліліся над брацкай магілай за ўпакой душ забітых.

Смерць 50 ліпшчан была карай за забойства аднаго нямецкага жаўнера, які працаваў на пастарунку ў Ліпску.

— На дарозе з Ліпска ў Ялова нашыя людзі затрымалі двух немцаў. Аднаго раздзелі толькі і пусцілі, а другога застрэлілі, — успамінае Крыстына Цеслюк з Ліпска.

Сярод асоб, якія наведалі магілу ў Наўмовічах, былі і такія, якія яшчэ памятаюць сумныя падзеі ваеннага перыяду. Крыстына Цеслюк згадвае, што калі б не дапамога суседа, яе бацька быў бы таксама забіты фашыстамі.

— Мне было шэсць гадзікаў, калі сваяк прыйшоў да майго бацькі і гаворыць: „Ясько, уцякай, сёння немцы будуць лапаць людзей". Бацька пасадзіў нас на фуру, прыкрыў саломай і завёз у Грабова, да сям'і. А гэтай ноччу немцы былі таксама ў нашай хаце.

Паводле Крыстыны Цеслюк ды іншых асоб, якія былі сведкамі жахлівай гісторыі, немцы мелі падрыхтаваны спіс людзей, прызначаных да арышту. Спіс быў састаўлены мясцовым палякам, які супрацоўнічаў з немцамі.

— Была сям'я Штукоўскіх — іх называлі Айчыноўцы. Быў Валодзя, Ясько, — успамінае Браніслаў Аляксандровіч. — Усіх забілі. Як кагосьці са спіса не маглі знайсці, бралі іншых. Немцам трэба было расстраляць 50 чалавек.

Першых ліпшчан немцы арыштавалі 20 чэрвеня 1943 года. Першапачаткова ўсе трапілі ў гарадзенскую турму, да якой яшчэ цягам двух тыдняў прывязджалі людзі з недалёкага Ліпска, каб чаго-небудзь даведацца аб членах сям'і і аднавяскоўцах. Сярод затрыманых 24 асоб была таксама Марыянна Бярнацкая. Хаця на нямецкім спісе людзей прызначаных да арышту не было яе прозвішча, тая аддала сваё жыццё за цяжарную нявестку. За гэты подзвіг 13 чэрвеня 1999 года была яна прылічана да ліку блаславёных рымскім папам Янам Паўлам II. Марыянна Бярнацкая нарадзілася ва ўніяцкай сям'і.

Ніхто дакладна не ведае колькі ахвяр Другой сусветнай вайны спачывае на фартах каля вёскі Наўмовічы. Вядома аднак, што ад восені 1941 да лютага 1943 года немцы расстралялі тут некалькі соцень чалавек габрэйскага паходжання. Былі гэта прадстаўнікі гарадзенскай інтэлігенцыі. Таксама некалькі дзён пасля злачынства на жыхарах Ліпска немцы расстралялі тут чарговых 70 асоб, між іншым, кс. Вітаўта Кузьміцкага з Дубровы-Беластоцкай, кс. Браніслава Руткоўскага, пробашча парафіі ў Ліпску і кс. Язэпа Плоньскага з Рыгалаўкі.

Хаця Ліпск і Наўмовічы дзеліць не больш за 20 кіламетраў, аднак не ў кожную гадавіну жыхары з нашага боку мяжы могуць наведаць магілу памардаваных землякоў. Аўтобус патрабаваў ехаць да Наўмовіч цераз найбліжэйшы памежны пераход з Беларуссю Кузніца — Брузгі. Ужо ад 2003 года плануецца адкрыццё перахода Ліпшчаны — Сафіёва. Брацкая магіла на фартах у Наўмовічах гэта не адно месца, дзе спачываюць беларусы з польскага боку мяжы. Старажытныя могілкі ў Галынцы, што каля Наўмовіч, гэта месца спачыну вернікаў розных нацыянальнасцей і канфесій. Першапачаткова могільнік быў уніяцкі. Знішчаны дашчэнтна савецкім войскам, выкарыстаны быў як грунт пад новую дарогу. Сёння спачываюць там каталікі і праваслаўныя з ваколіцы. Гэта грамадзяне Польшчы і Беларусі. Удзельнікі экскурсіі на могільніку ў Галынцы знаходзілі магілы сваіх знаёмых, членаў сям'і і аднавяскоўсаў. Галоўнай мэтай экскурсіі жыхароў Ліпска ў Наўмовічы была 70 гадавіна расстрэлу 50 ліпшчан фашыстамі, аднак была таксама нагодай для наведвання могілак продкаў і сустрэч з блізкімі, якія засталіся на беларускім баку мяжы.

Уршуля ШУБЗДА




# www.lightynna.ru

У Венгрыі найбольшая колькасць паэтаў на душу насельніцтва! Прынамсі, так калісьці распавядала турыстычнай групе, у якой я апынуўся напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя, старая венгерка-экскурсавод. Хоць нейкіх статыстычна абгрунтаваных доказаў тая жанчына не прыводзіла, але ніхто з ёй не спрачаўся. Свае ж словы вянгерка абгрунтоўвала тым, што вянгерская мова надта пявучая і мілагучная, як ні якія іншыя, і таму на ёй вельмі лёгка складаюцца вершы.

Венгры і беларусы — не суседзі, падабенства маюць толькі, хіба, у прыкладна роўнай колькасці народу. Праўда, калі, мяркуючы па логіцы маёй экскурсаводкі, венграм лёгка складаць вершы на іх мове, то беларусы маюць з гэтым вялікую праблему. І ўсё з-за таго, што ў адрозненні ад венграў не надта шануюць сваю мову, саромяцца размаўляць на ёй. Таму, калі б нехта палічыў суадносіны беларускамоўных паэтаў на колькасць насельніцтва, што карыстаецца беларускай мовай, то, пэўна, пераўзышлі б мы венграў у такім паэтычным спаборніцтве.

Адной з паэтак, творчасць якой пацвярджае такое меркаванне, з'яўляецца Тацціяна Дзям'янава. На яе паэтычную старонку ў інтэрнэце варта завітаць, бо прываблівае той сайт не толькі прыгожым выглядам, але і глыбокім зместам твораў.

Сайт Таццяны Дзям'янавай месціцца па адрасе www.lightynna.ru. Сіні выгляд вэб-старонкі і выява малога анёлка, што спіць на Месяцы, спачатку ствараюць уражанне, што распавядаецца там пра нейкія калыханкі. Тым больш у самапрэзентацыі ў рыбрыцы „Пра мяне" паэтка таго не аспрэчвае. „А што сказаць пра мяне? Тут добра было б прыгадаць анекдот, які ў мяне пераклаўся ў вершаваныя радкі: «Над Вашымі вершамі можна заснуць, / Гаворыць рэдактар паэту на ганку. / І сам адчуваю, што вершыкі — муць. Тады надрукуйце іх... як калыханкі!» Вось і друкую свае вершы як калыханкі — для тых, каму не спіцца па начах. І буду вельмі ўдзячна ўсім чытачам за актыўную крытыку, якая мне неабходна як вада расліне", — піша Таццяна Дзям'янава.

Але вершы, што змешчаны на яе сайце, гэта не толькі калыханкі. Там прысутнічае і любоўная лірыка, і грамадзянская паэзія, і філасофскія развažанні. „Якія я пішу вершы? Якія пішуцца: тут ёсць і памылкі, і моўныя неахайнасці, і стылістычныя недарэчнасці. Але гэта — маё. Я — не паэтка, я толькі вучуся. Спадзяюся, што расту і колькасць вершаўнедарэкаў будзе паступова змяншацца", — распавядае пра сваю творчасць на галоўнай старонцы пачынаючая творца.

Вершы Таццяны Дзям'янавай вызначаюцца вастрынёй і трапнасцю. Адным з такіх з'яўляецца „Здыму кватэру за інтым". «...„Здаю... здымаю... за інтым..." / Аб'явы брудныя змясцілі. / Не важна, як, не важна, з кім, — / Каб толькі ў хату жыць пусцілі. / „Прадам сябе! Патрэбны дом!" / Душа заходзіцца ад жаху... / Як добра сёння быць катом! / Ці, на худы канец, сабакам!» — говорыцца ў вершы.

Нягледзячы на разнастайнасць тэм, якіх кранаецца пяро паэткі, вершы аніяк не сістэматызаваны. У рубрыцы „Вершы" месціцца ўся творчасць Дзям'янавай, дзе назвы твораў з'яўляюцца гіперспасылкамі на вершаваныя тэксты. Толькі з правага боку можна ўбачыць раздзяленне вершаў па гадах.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з календара

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара

Жыццё адданае змаганню

# 105 гадоў з дня смерці Валеры Урублеўскага


Фота Уладзіміра ХІЛЬМАНОВІЧА

Валеры Урублеўскі памёр 5 жніўня 1908 года ў Парыжы. Адзін з кіраўнікоў паўстання 1863-1864 гадоў меў сапраўды гераічнае жыццё, ахутанае арэолам змагання і вайны.

Нарадзіўся наш герой 27 снежня 1836 года ў мястэчку Жалудок (сённяшні Шчучынскі раён) у сям'і шляхціца Антона Урублеўскага і Разаліі з роду Юраўскіх. Бацька будучага ваяра працаваў леснікам, а потым скарбнікам у графа Тызенгаўза. У 1853 годзе Валеры Урублеўскі скончыў Віленскую гімназію і паступіў у Пецярбургскі лясны інстытут. У 1861 годзе ён быў накіраваны на працу інспектарам лясной школы ў Саколку. Яшчэ ў студэнцкія гады Урублеўскі быў добра знаёмы з Кастусём Каліноўскім і Зыгмунтам Серакоўскім, таму ў 1861-1862 гадах ён актыўна ўлучыўся ў падпольную працу. Разам з Каліноўскім рыхтаваў, выдаваў і распаўсюджваў „Мужыцкую праўду" — першую ў гісторыі беларускую газету.

У 1863 годзе, калі выбухнула паўстанне, ён — начальнік штаба паўстанцаў, са жніўня — камандзір паўстанцкімі збройнымі сіламі ўсёй Гарадзенскай губерні, пазней — Люблінскага і Падляшскага ваяводстваў. Быў цяжка паранены ў баі 7 студзеня 1864 года казакамі, пасечаны шаблямі. Як толькі падлячыўся, эміграваў у Францыю. У Парыжы кіраваў дэмакратычнымі арганізацыямі беларуска-польскіх эмігрантаў. Калі ў Францыі адбылася рэвалюцыя і была створана Парыжская камуна, Урублеўскі быў у першых шэрагах. Неўзабаве яму за баявыя заслугі было прысвоена званне генерала Парыжскай камуны. Змагаўся ён да апошняга і быў прыгавораны версальцамі завочна да пакарання смерцю. Аднак з фальшывым пашпартам здолеў выехаць у Англію, дзе лячыўся ад шматлікіх раненняў. Яму з цяжкасцю ўдалося пазбегнуць ампутацыі рукі. У Брытаніі зблізіўся з Карлам Марксам і Фрыдрыхам Энгельсам. Урублеўскі шчыра верыў у свае ідэалы, уступіўшы ў Першы Інтэрнацыянал. Некаторы час жыў у Жэневе, у 1878 годзе нелегальна прыязджаў у Адэсу і Пецярбург. Сустракаўся з народнікамі-землявольцамі. А калі французскі ўрад абвесціў амністыю, у 1885 годзе пераехаў у Францыю і пасяліўся ў Ніцы. Апошнія гады жыў ва Уарвілі — прыгарадзе Парыжа, у доме былога камунара Генрыка Гершынскага.

Пахаваны Урублеўскі ў Парыжы на могілках Пэр-Ляшэз. Дастаткова ў параўнанні з іншымі паўстанцамі ўшанаваны ён у Беларусі. У Гародні яшчэ з савецкага часу ёсць вуліца Урублеўскага і яго барэльеф на адным з дамоў. Урублеўскаму даследнік паўстання 1863 года Генадзь Кісялёў прысвяціў кніжку „Паплечнік Каліноўскага". У яго гонар напісана многа вершаў. У Жалудку імя Урублеўскага мае мясцовая школа, а нядаўна там, у цэнтры мястэчка, з'явіўся новы памятны знак (на фота).

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

XVIII Міжнародны фестываль шматлікіх культур і народаў „З вясковага панадворка”, які праходзіў 19-21 ліпеня 2013 года, па-за намі. Гэта быў чарговы выпуск мерапрыемства так высокага рангу, быць гаспадарамі якога мелі гонар фольказы гурт „Чарамшына” і Таварыства любіцеляў народнай культуры. Імпрэза на стала запісалася ў календары культурных мерапрыемстваў Чаромхі і з кожным годам расцвітае. А гэта заслуга сужонства Барбары Кузуб-Самасюк і яе мужа Міраслава Самасюка, якія задбалі пра тое, каб Чаромха стала месцам прэзентацыі фолькавых гуртоў, якія набылі ранг фестывалю...

Багаты і разнародны быў рэпертуар сёлетняга фестывалю. Перш-наперш запрэзентавалася рок-група „Medicimbal” з Чэхіі. Госці выбралі са сваёй багатай скарбніцы гіты — народныя песні чэшскага і славацкага фальклору. Кожны з выступаючых калектываў на чаромхаўскім фестывалі гэта высокага класа майстры разнавідных жанраў народнай культуры і лаўрэаты міжнародных прэмій. І так, у пятніцу выступілі яшчэ дзве айчынныя групы: „Carrantuohill” і DJ Wojcio, а таксама гаспадар фестывалю „Чарамшына”. Варта адзначыць, што канцэрт праходзіў паспяхова пры шматлікай публіцы. Традыцыйна Мазавецкая чыгунка, якая лічыцца спонсарам мерапрыемства, арганізавала адмысловы курс цягніка Варшава-Усходняя — Чаромха. Цягнік прыбыў у Чаромху а 6-й зранку ў пятніцу 19 ліпеня, а адправіўся ў Варшаву ў нядзелю 21 ліпеня а 23-й. У пятніцу, у 11 гадзін у зале ГОК адбылася канферэнцыя „Народная культура і сродкі масавай інфармацыі”.

Субота была міжнародным днём. Выступілі „Boja” з Венгрыі, „La3no Cubano” са Славакіі, албанска-брытанскі „Fanfara Tirana meets Transglobal Underground”, айчынны гурт „Pochwalone” і DJ Empe. Перад канцэртамі была магчымасць удзельнічаць у майстар-класах украінскіх танцаў, саломапляцення і ганчарскіх вырабаў, славацкай, чэшскай, беларускай і венгерскай кухняў, ігры на інструментах і губным гармоніку. Працаваў кірмаш народнага рукадзелля. Паспяхова і з зацікаўленнем прэзентавалася выстаўка „Школа адміраючага рамяства”. Як сказаў суарганізатар фестывалю і член гурту „Чарамшына” Міраслаў Самасюк, найбольшым поспехам у суботу карыстаўся канцэрт албанска-брытанскай групы „Fanfara Tirana meets Transglobal Underground”. Групу складаюць два незалежныя калектывы: брытанскі „Transglobal Underground” і албанскі „Fanfara Tirana”, якія спалучыліся дзеля эксперыменту. Знайшоўшы апору ў разнародных элементах музыкі свету, у тым ліку і ў балканскай музыцы, абменьваюцца зараз думкамі, мелодыямі і тэкстамі, каб расказваць гледачу новыя музычныя гісторыі. „Fanfara Tirana” безумоўна адзін з найбольш цікавых духавых аркестраў на Балканах. Паспяхова выступае на міжнародных канцэртах і здабывае шырокае кола фанатаў. Хто раз іх пачуе, прагна шукае іхняга чарговага канцэрта.

У той жа дзень у 17:15 у зале клуба дэманстраваўся фільм „Памяць дома” Бэаты Хыжы-Чалпінскай. Гэта жывы аповед аб Падляшшы, аб культурным краявідзе Белавежскай пушчы і непаўторнай драўлянай вясковай архітэктуры. Рэжысёрка паказвае два кантрасты: з аднаго боку вобраз занападу своеасаблівай драўлянай архітэктуры і ўзнікаючыя ў гэтае месца мураваныя будынкі, з другога — мясцовых жыхароў, якія абыякава ставяцца да гэтай праблемы і ўцякаючых з гаманлівых агламерацый гараджан, якія купляюць старыя драўляныя хаціны, прыводзяць іх у даўнейшы архітэктурны стан, каб зберагчы даўнейшае і спыніць працэс знішчання. Хто пераможа ў тым працэсе? — задумваецца аўтарка фільма.

Наступнага дня, у нядзелю 20 ліпеня, у 14 гадзін адбыўся конкурс рэгіянальнай кухні. Удзельнічала 13 асоб з Чаромхаўскай гміны і Таварыства „Спадчына” з Беларусі. І так, Ежы Шульжык прэзентаваў свойскую каўбаску, Марыя Шульжык — каркавіну з лісічкамі і блінцы з грыбамі, Уршуля Савіцкая — грэчаныху, Вольга Назарук — ялаўцоўку падляшскую, Надзея Унучка — пірог з сырам, Анна Назарук — рожкі розныя, Моніка Алексяюк — каламазь (смаравідла) ды параныя агурчыкі, Агата Шоплік — бульбяную тушонку, Іаанна Раманюк — шарлётку і хлеб свойскі са шмальцам, Анна Боцюк — куццю з фасоляй і грэчнева-бульбяную кішку, Надзея Дудэль — сала, шмалец са скваркамі, Галіна Шатыловіч — аладкі на масле, Гражына Астапковіч — куццю, Таварыства „Спадчына” з Беларусі — шалату. Спрабаваннем страў займалася адмысловае журы, якое складалі войт гміны з сакратаром Гміннай управы ды знатакі кулінарнай справы з Гарволіна, сябры пакойнага Мацея Кураня.

Першае месца журы прызначыла Надзеі Унучка з вёскі Чаромха за пірог з сырам, другое — Вользе Назарук за падляшскую ялаўцоўку і трэцяе — Уршулі Савіцкай за грэчаныху. Вылучанымі былі стравы таварыства „Спадчына” з Беларусі і Гражыны Астапковіч. Удзельнікі конкурсу атрымалі ўзнагароды.

У 17 гадзін тэатр „Маката” паказаў спектакль „Вяселле” ў рэжысуры Віктара Вікторчыка. Драматургія спектакля зводзілася да вясельнага абраду, якому спадарожнічалі песні, танцы і народныя звычаі. Выходзіла гэта аднак па-за звычайную рэканструкцыю абраду, а відовішча было ўніверсальным аповедам аб жанчыне і мужчыне. „Вяселле” — гэта адкрытая форма спектакля, дзе ўдзельнік ставаў акцёрам, часткай відовішча, удзельнічаў у вясельным карагодзе, песнях і танцах, здаваўся быць вясельным госцем. Своеасаблівасцю спектакля былі манументальныя куклы Маладой і Маладога, а таксама касцюмы акцёраў, апрацаваныя Ілонай Шуркоўскай. У тым жа часе дэманстраваўся чарговы фестывальны фільм „Шкурнік” (рэжысёр Мікалай Шпікоўскі, фільм з 1929 года, чорна-белы, неагучаны). Гэта цікавы аповед аб прадпрымальным жыхары Кіева, які ў час рэвалюцыі „выбіўся” на начальніка аддзялення міліцыі, якога ў канчатковым выніку згубілі хітрыкі.

Нядзельны канцэрт завяршыўся выступам айчыннага гурту „Harpcore” і польска-ўкраінскага праекта „R.U.T.A. & Hulajhorod”. Своеасаблівым рэпертуарам карыстаўся выступ апошняга гурту з салісткай Анастасіяй Някрасавай, маладзенькай прыгажуняй з Мінска. На гэты канцэрт прыехала шмат фанатаў, між іншым мае ніўскія сябры ў адборнай кампаніі. Калі мы з Мікалаем Ваўранюком абменьваліся навінкамі, яго беластоцкія кампаньёны глядзелі канцэрт згаданага польска-ўкраінскага гурту. Да гэтай кампаніі далучыліся мы адно ў час апошняга выступу Настусі, калі пачуліся гучныя воклічы: Настка, Настка, Настка!!! Канцэрт завяршыўся а палове адзінаццатай вечара. Пасля сустрэчы маіх сяброў з іх улюблёнкай Насткай Някрасавай, у вясёлай кампаніі падаліся мы ў напрамку Кузавы, затым кожны ў свой бок: я дахаты, а сябры — у Беласток.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**



# Фестываль шматлікіх культур і народаў

## Адгаданка

1. салдат, ваяка, 2. нізкая гліняная пасудзіна з выпуклымі бакамі і вузкім горлам, 3. высокі царкоўны саноўнік, 4. горы між Алтаем і Байкалам, 5. напр. марафон, 6. усходнеазіяцкі паўвостраў з дзвюма дзяржавамі, 7. украінскі народны спявак з кобзай, 8. левы прыток Амура, 9. вадзяны вал ад гайдання паверхні вады, 10. сукупнасць прыёмаў і сродкаў, напрыклад у творчасці, 11. складаны блізкаўсходні арнамент, 12. да пары ваду носіць.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — пагаворка.

(ш)

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | | 2 | | | | | |
| | 3 | | 4 | | | 5 | | | 6 | | |
| | | | | | | 7 | | | | | |
| | | | | 8 | 9 | | | 10 | | 11 | |
| | | 12 | | | | | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 27 нумара**

Век, Нерон, ноч, павека, туя, тычына, чало.

Рашэнне: **Чалавек невучоны як тапор нетачоны**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

## 11.08 — 17.08

**(22.03. — 20.04.)** Добры час, поўны зносін з прыемнымі людзьмі. Поспех будзе спадарожнічаць ва ўсіх справах. Чакаюць пазітыўныя эмоцыі, новыя знаёмствы і цікавыя сустрэчы. Выдатны перыяд для наведвання грамадскіх мерапрыемстваў і месц з вялікай колькасцю людзей. Чым больш актыўным і ініцыятыўным будзеш у гэтыя дні, тым на большае зможаш разлічваць у будучыні.

**(21.04. — 21.05.)** Накіруй свае намаганні на паляпшэнне свайго сацыяльнага становішча. Не спрабуй вырашыць што-небудзь сам, не з'яўляючыся спецыялістам. У аўторак будзеш займацца размеркаваннем даходаў, а выплатай падаткаў і пошлін. Пачынаючы з серады пажадана табе карыстацца дапамогай збоку. Праяві дыпламатычнасць і будзь больш уважлівым да людзей.

**(22.05. — 22.06.)** На гэтым тыдні мае сэнс далей схаваць кашалёк і замкнуць на ўсе завалы ўваходныя дзверы. У панядзелак магчымы нечаканы паварот падзей: будзь напагатове — сітуацыя можа выйсці з-пад кантролю. 13-17.08. зазвяеш ведамі і задумамі. У суботу пацягне цябе заняцца добраўпарадкаваннем хатняга гняздзечка.

**(23.06. — 23.07.)** Хоць твае мары і рэальная рэчаіснасць здаюцца табе далёкімі адзін ад аднаго, можаш пачаць ажыццяўляць планы. На гэтым тыдні будзеш кіраваць іншымі людзьмі. Магчымыя непрыемнасці, звязаныя з вадой. У панядзелак варта заставацца нейтральным падчас высвятлення адносін. Не адштурхвай сваю ўдачу ў сераду. Субота можа стаць пачаткам вялікіх і гарачых адносін.

**(24.07. — 23.08.)** Прыйшоў час, каб паспрабаваць зняміць свой лад жыцця. Не рай блізкім сябрам і знаёмым, што і калі ім рабіць, бо менавіта ты будзеш абвінавачаны ва ўсіх іх стратах і промахах. У аўторак уважліва лічы здачу. У сераду будзь асцярожны з электрапрыборамі. У канцы тыдня вельмі верагодныя рамантычныя сустрэчы.

**(24.08. — 23.09.)** Спатрэбіцца ўсё тваё самавалоданне, каб адмовіцца ад вельмі заманлівай прапановы, якая будзе падманам. Пошук зніклых прадметаў і дакументаў на гэтым тыдні будзе беспаспяховым. Рамантычны настрой у аўторак. У сераду на цябе можа напасці якаясь жывёла. Чацвер: дзень добры для адмены і нейтралізацыі чаго-небудзь.

**(24.09. — 23.10.)** Хтосьці ці штосьці будзе сур'ёзна залежаць ад твайго меркавання і рашэнняў. Скарыстайся становішчам, якое стварылася. У панядзелак карыстайся грамадскім транспартам. У аўторак у цябе атрымаецца пачаць любыя складаныя справы. У сераду можаш задумацца пра змену працы.

**(24.10. — 22.11.)** Не абяцай большага, чым можаш зрабіць. Перакладвай свае абавязкі на чужыя плечы. У аўторак праблемы з блізкімі сябрамі або бацькамі могуць выклікаць дадатковую напружанасць у адносінах. Зможаш выявіць свае таленты ў прафесійнай сферы дзейнасці ў чацвер. 13-17.08. — новыя шанцы і магчымасці.

**(23.11. — 22.12.)** Пачынаецца вельмі неспакойны тыдзень, які прынясе шмат праблем у зносінах. Дасць аб сабе ведаць стары канфлікт. Трымайся ў баку ад непрыемных табе людзей. Панядзелак: пачатак тыдня прынясе табе праблемы, звязаныя з тваёй прафесійнай дзейнасцю. У сераду вышэйшыя сілы дапамогуць табе пераадолець шматлікія перашкоды. Субота — добры час для зачацця дзіцяці.

**(23.12. — 20.01.)** Набудзеш каштоўную інфармацыю, калі будзеш уважліва слухаць і назіраць. Праяві дыпламатыю, каб дамагчыся ажыццяўлення сваіх даўніх жаданняў і планаў. У аўторак магчымы даволі буйныя грашовыя траты. Ні пры якіх умовах не апранай у сераду чужую вопратку.

**(21.01. — 19.02.)** Тыдзень абяцае быць удалым у фінансавым плане. У сераду зможаш вельмі шмат чаго дабіцца, без істотных намаганняў. Справы, прызначаныя на чацвер, пройдуць на рэдкасць удала. У пятніцу чакаюць цябе новыя знаёмствы, у тым ліку і рамантычныя.

**(20.02. — 21.03.)** Вялікая верагоднасць буйных памылак пад уплывам эмоцый і пачуццяў. Не ідзі на павадку імгненных запалу і жаданняў. Прыйшоў час знайсці свае скрытыя магчымасці. Прыслухайся да сваёй інтуіцыі. У панядзелак нельга ні сціраць у вадзе бялізну, ні ткаць палатно, ні браць у рукі верацяно. У суботу ў цябе будзе шмат жыццёвых сіл, актыўнасці і энергіі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 100 egz.

# Партугалія, а якая я? (ч. 2)

**Тутэйшае жыццё без спешкі становіцца жыццём шчаслівым, аднак мае таксама свае паслядоўнасці ў вядомых спазненнях заўсёды і ўсюды, асабліва раніцай. Гэтая праблема вынікае таксама з факту, што беручы пад увагу высокія тэмпературы сапраўднае жыццё ў Лісабоне пачынаецца толькі пасля змяркання.**

Рэстараны і кавярні напаўняюцца людзьмі, якія часцей ядзяць па-за домам, чымсьці грамадзяне Польшчы. Магчыма таму, што апрача ежы для страўніка — надта папулярных пладоў мора і сушанай траскі *bacalhau* — у лісабонскіх шынках можна знайсці і духовую страву.

*Fado* — называнае таксама партугальскім блюзам, дасл0ўна абазначаючым прызначэнне, гэта музычны жанр, які паявіўся у XIX стагоддзі ў бедных раёнах Лісабона *Alfama* і *Mouraria*, будучы меланхалічнай песняй, якая выконвалася адным вакалістам пад акампанемент дзвюх гітар. Жыхары Лісабона любуюцца ў праводжанні вечароў слухаючы *fado* і з раскошай выпіваюць чарку партугальскага віна, якое ачароўвае смакам і цаной. Найлепшым напіткам, які давялося мне скаштаваць падчас маёй пабыўкі ў Партугаліі, з'яўляецца порта, выробленае з вінаграду сабранага ў даліне ракі Дуэра. Цяжка сабе ўявіць лепшы спосаб правядзення вечара ў Лісабоне як слуханне *fado* з чаркай порта ў далоні, асабліва тады, калі выканаўца анёльскім голасам спявае пра *saudade*, што прыблізна значыць пра тугу.

*Saudade* — па-мойму гэта найпрыгажэйшае слова ў партугальскай мове, не маючае аналагаў у ніводнай іншай мове. Спачатку *saudade* абазначала галоўным чынам неспакой, які заахвочвае да адкрывання новых мацерыкоў і творчай перамены ўласнага лёсу. Партугальцы былі адкрывальнікамі, прыкладам чаму з'яўляецца Васка да Гама, які адкрыў дарогу ў Індыю. Аднак з цягам часу *saudade* набрала гучання меланхалічных роздумаў над страчанай велічынёй і сёння *fado* выказвае настальгічнае стаўленне партугальцаў да ўласнай экзістэнцыі.

Нечаканасцю быў для мяне факт, што *fado*, якое з'яўляецца надта традыцыйнай і меланхалічнай музыкай, трапляе таксама ў густ моладзі, якая яго слухае і выконвае. Пасля позняй вячэры, каля 22 гадзіны, вялікая частка жыхароў Лісабона застаецца на вуліцы, дзе пульсуе сяброўскае жыццё. У Партугаліі, у параўнанні з Польшчай, не абавязвае забарона спажывання алкаголю ў публічных месцах. Вулачкі старых раёнаў *Bairro Alto* і *Cais do Sodre* змяняюцца ў шумную забаву, якая трывае да раніцы. Нічога дзіўнага, што позняе ўставанне з пасцелі становіцца нормай.

Многія знаўцы начнога жыцця, рызыкуючы недахопам сну, маюць шанц захапляцца ўсходам сонца на шматлікіх наглядных пляцоўках, называных *miradouro*. Лісабон, так як Рым, распалажаны на сямі ўзгорках з маляўнічымі краявідамі, пароплых зеленню, абсталяваных лавачкамі і латкамі з надта смачнай кавай.

Седзячы і папіваючы папулярнае *espresso*, можна захапляцца прыгожымі старымі камяніцамі, якія пакрываюць схілы пагоркаў, і лейкападобным вусцем да Атлантычнага акіяна ракі Тэжу, праз якую перакінуты два прыгожыя масты. Двухкіламетровы *Ponte 25 de Abril* — Мост 25 Красавіка, назва якога ўвекавечвае пачатак мірнай рэвалюцыі гваздзікаў у 1974 годзе — заканчэнне 48-гадовай дыктатуры ў Партугаліі. Семнаццацікіламетровы *Ponte Vasco da Gama* — Мост Васка да Гама знаходзіцца ў сучасным раёне горада *Oriente*. Гэтая частка горада ўзнікла падчас выставы *Expo 1998*, якой Лісабон быў гаспадаром. Надзвычай прыгожы чыгуначны вакзал, запраектаваны славутым іспанскім архітэктарам Сант'ягам Калатравам, акіянарыі на вадзе, а таксама імпазантныя хмарачосы з'яўляюцца тут абсалютным кантрастам да старой часткі Лісабона. Адыходзячы са станцыі метро цяжка паверыць, што надалей знаходзімся ў гэтым самым горадзе.



Пляц Rossio або Praca Dom Pedro IV — найбольш папулярная плошча ў Лісабоне



Палац Пена на скале над Сінтрай



Тарговая плошча (Praca do Comércio) з коннай статуяй каралю Язэпу I



Чыгуначны вакзал Oriente

Лісабонскае метро таксама ўражвае сваёй сучаснасцю. Чатыры лініі дазваляюць хутка і беспраблемна дабрацца ў пажаданае месца, хоць і горад як на еўрапейскую сталіцу невялікі — жыве ў ім паўмільёна чалавек. На гэтым якраз заключаецца чароўнасць Лісабона: сталічны горад з красою малога мястэчка. Паўгода праведзенае ў Лісабоне аказалася недастатковым, каб адчуць задавальненне ад пазнання яго наскрозь. Лісабон заўсёды поўны кантрастаў і нечаканасцей, поўны красы і магічнай атмасферы.

Разам са сваёй сяброўкай мы знялі кватэру ў старым квартале *Graca* і, замест ездзіць аўтобусам, мы хадзілі пехатою і глыталі лісабонскую прыгажосць.Такія шпацыры патрабуюць надта добрай формы. Гарысты рэльеф і брукаваныя вуліцы з'яўляюцца сапраўдным выклікам, таму пабачыць жанчыну на высокіх абцасах у Лісабоне даводзіцца вельмі рэдка. Надвор'е спрыяла нам вельмі доўга. Цёплыя дні працягваліся аж да лістапада. У лістападзе прыйшло пахаладанне і неўзабаве надышла „зіма". Двукоссе тут неабходнае, таму што лісабонская зіма абазначае дождж замест снегу і 9 градусаў са знакам плюс па Цэльсію замест мінус 20. Быў бы гэта несумненна рай, калі б не факт, што старая забудова Лісабона не мае тэрмаізаляцыі ў сценах, а ў кватэрах няшчыльныя драўляныя вокны. Гэтая камбінацыя з недахопам цэнтральнага ацяплення спрычынілася да таго, што дзяўчыны, якія прыехалі з Польшчы, мерзлі ў Лісабоне, выклікаючы ўсмешкі ў партугальцаў. Апранутыя ў тоўстыя світары, пражылі мы зіму ў нашай кватэры з дакучлівым ветрам, які гудзеў па кутках.

Лісабонскія дажджы гэта сапраўдны выклік. Дастаткова ўспомніць, што пасля кожнага лівня сметніцы былі поўныя рознакаляровых паламаных парасонаў. Падчас аднаго такога лівня, з выгнутым ветрам парасонам схаваліся мы ў нейкім рэстаране. Паспрабавала я яго адкрыць і тады падбег да нас занепакоены афіцыянт і сказаў, што нельга адкрываць парасон у памяшканні, таму што гэта прыносіць вялікую няўдачу. Выйшаў ён на дождж з маім парасонам, аднак не ўдалося яму яго наладзіць і вярнуўся збянтэжаны. І хоць я незабабонная асоба, гэтая сітуацыя мяне развесяліла. Чарговы дзень, перапоўнены няшчасцем і няўдачай, спрычыніўся да таго, што я ўжо не маю адвагі адкрыць парасон у памяшканні. Расказаўшы пра гэтае здарэнне партугальскаму сябру і спадзеючыся выбуххаў смеху, замест гэтага пачула, што гэта праўда, пра якую кожны ведае, і што няўдача дзейнічае толькі на тэрыторыі Партугаліі. І калі ўжо нехта адкрыў парасон, трэба яму як найхутчэй уцякаць у Іспанію. Партугальская сяброўка ведала аднак прасцейшы ратунак: парасон трэба толькі тры разы адкрыць і закрыць. Пра гэтае я даведалася намнога пазней, а тым часам у дзень найбольшага лівня я не ўзяла парасона. Адзін з партугальскіх сяброў прапанаваў пазычыць мне свой парасон і на маю падзяку скарыстаўся цытатай з песні Тома Уэйтса „Strange Weather": *I never buy umbrellas cause there's always one around* („Ніколі не купляю парасона, таму што нейкі заўсёды знаходзіцца побач"). Ад гэтай пары парасонная няўдача перастала дзейнічаць. А цяпер, калі я думаю пра Лісабон, бачу яго не выкупаным у сонечных промнях, а сцякаючага дажджом, выкупанага ва ўсмешках добразычлівых людзей.

**Тэкст і фота Наталлі ШВЕД**

ISSN 0546-1960